

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання** **№ 1 (105) 3 студзеня 2024 г.**

# З Калядамі!

## Слуцк беларускі

Званне культурнай сталіцы 2023 года ў Слуцку было даказана не толькі выставамі і канцэртамі, піша "Мінская праўда". Год пакінуў свой след і ў Цэнтры банкаўскіх паслугаў № 615 Беларусбанка, дзе супрацоўнікі змянілі дзелавы стыль адзення на строі ў народным стылі.



Начальнік аддзела продажаў рознічных банкаўскіх прадуктаў і паслуг Ганна Сяржанава адзначыла, што кліенты ацанілі абнаўленні ў банку.

- Ператварэнне аперацыйнай службы нашага цэнтра банкаўскіх паслуг выклікае ў кліентаў шчырую радасць. Асобнае ўпрыгожванне - выдатныя супрацоўнікі - пісьменныя, уважлівыя да кожнага кліента. Цяпер яны ў стылізаваным фірмовым адзенні з элементамі беларускага нацыянальнага строю.

Распрацаваны два дызайны: зімовы і летні варыянт. Яны і па тканіне, і па сваёй стылістыцы нагадваюць беларускія нацыянальныя строі. Блюзкі ўпрыгожаны вышыўкай, на паясах - арнамент, ва ўзорах якога зашыфраваны пажаданні дабра і дабрабыту. Мы вельмі любім свой горад, і ў гэтым праекце падкрэсліваецца яго ўнікальнасць: гісторыя звязана з сучаснасцю, каб захаваць тое, што сапраўды каштоўнае і для чалавека, і для нацыі, - распавяла Ганна Сяржанава.

***"Мінская праўда".***



Я з каляднаю свечкаю цёплай
Праз лясок, праз халодны іду,
Каб праменьчык святла ў ночы цёмнай
Знішчыў там і ману, і бяду.
Хай пужаюць ваўчыныя вочы
І нялёгка мне крочыць пакуль,
Спадзяюся ў калядную ноч я
Хату-храм хоць пабачыць адсюль.
І пачуць сярод дрэваў званочкі,
Што вясцяць пра з'яўленне Хрыста.
Свечку ўзняць, быццам родную дочку,
Што Надзеяй была ад раства.
Спадзяюся, што свечку Надзею
Разам будзем трымаць у руках
Ты і я. І калядную дзею
У тваіх я пабачу вачах...





№ 1 (105) 3 СТУДЗЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

СТУДЗЕНЬ

**2 студзеня -** 100 гадоў з дня дня нараджэння беларускага гісторыка, публіцыста і выдаўца з Лондана **Юрыя Весялкоўскага** (1924-2017).

**3 студзеня -** 80 гадоў з дня нараджэння **Міхася Раманюка**, вядомага беларускага мастацтвазнаўца і этнографа.

**6 студзеня -** 110 гадоў з дня нараджэння **Тодара Лебяды**, беларускага пісьменніка.



**7 студзеня -** 100 гадоў з дня нараджэння **Барыса Бур'яна**, тэатральнага крытыка, празаіка, сцэнарыста.

**8 студзеня -** 100 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Дадзіёмава**, беларускага празаіка.

**14 студзеня -** 90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Лазоўскага**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філала-гічных навук, прафесара.

**17 студзеня -** 120 гадоў з дня нараджэння **Алеся Якімовіча**, празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры БССР.



**18 студзеня -** 140 гадоў з дня нараджэння **Адама Лісоўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, каталіцкага духоўніка.

**24 студзеня -** 120 гадоў з дня нараджэння **Янкі Шутовіча**, беларускага культурнага дзеяча, літаратуразнаўца.

**24 студзеня -** 85 гадоў з дня заснавання (1939) **Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі**.

**25 студзеня -** 220 гадоў з дня нараджэння **Антонія Адынца**, паэта, перакладчыка, мемуарыста.



**25 студзеня -** 100 гадоў з дня нараджэння **Віктара Мартынава** (1924-2013), беларускага мовазнаўца.

**26 студзеня -** 460 гадоў таму (1564 г.) каля в. Іваньск (цяпер Чашніцкі раён), на р. Ула, адбылася **Ульская бітва** паміж войскамі Расіі і ВКЛ у час Лівонскай вайны.

**28 студзеня -** 135 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Мамонькі** (1889-1937), беларускага палітычнага дзеяча і публіцыста.

**29 студзеня -** 140 гадоў з дня нараджэння **Антона Луцкевіча** (1884-1942), гісторыка, публіцыста, палітычнага і грамадскага дзеяча.



**29 студзеня -** 100 гадоў з дня нараджэння **Арцёма Баханькова**, беларускага мовазнаўца.

**31 студзеня -** 95 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Грыцкевіча**, доктара гістарычных навук.

ЛЮТЫ

**4 лютага -** 90 гадоў з дня нараджэння **Арсеня Ліса**, фалькларыста, доктара філалагічных навук.



**4 лютага -** 90 гадоў з дня нараджэння **Міколы Савіцкага**, змагара за беларускую мову, кандыдата эканамічных навук, прафесара.







# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

**6 лютага -** 110 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Куляшова** (1914 - 1972), народнага паэта Беларусі (1968 г.).



**8 лютага -** 110 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Таўлая**, беларускага паэта.



**9 лютага -** 120 гадоў з пачатку **руска-японскай вайны** 1904 - 1905 гг. Тысячы беларусаў былі мабілізаваны і ўдзельнічалі ў ёй.

**11 лютага -** 160 гадоў з дня нараджэння **Люцыяна Уземблы**, гісторыка культуры, краязнаўца, калекцыянера.

**12 лютага -** 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Капусціна,** беларускага празаіка, публіцыста, перакладчыка.

**12 лютага -** 90 гадоў з дня нараджэння **Міколы Янкоўскага**, беларускага фалькларыста, кандыдата філалагічных навук, дацэнта.

**14 лютага -** 225 гадоў з дня нараджэння **Валенція Ваньковіча** (1799-1842), беларускага жывапісца.

**14 лютага -** 200 гадоў з дня нараджэння **Антона Залескага**, мастака, удзельніка паўстання 1863-64 гг.

**15 лютага -** 120 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Александроўскай** (1904 - 1980), спявачкі, опернага рэжысёра.

**15 лютага -** 35 гадоў таму (1989 г.) закончаны вывад савецкіх войскаў з **Афганістана**.

**16 лютага -** 100 гадоў таму (1924 г.) заснавана **бібліятэка Інстытута беларускай культуры** (цяпер Цэнтральная бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі).

**16 лютага -** 85 гадоў з дня нараджэння **Чэслава Немана** (Юліюш Выдрыцкі), выдатнага музыкі, кампазітара, спевака.

**17 лютага -** 85 гадоў з дня нараджэння **Мечыслава Курыловіча**, беларускага паэта.

**18 лютага -** 80 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Будзінаса**, беларускага празаіка, нарысіста.

**19 лютага -** 160 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Адамовіча**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца.

**21 лютага -** 25 гадоў з часу заснавання **Міжнароднага дня роднай мовы.**

**22 лютага -** 135 гадоў з дня нараджэння **Міколы Байкова** (1889-1941), педагога, лінгвіста, літаратуразнаўца.

**22 лютага** - 85 гадоў з дня нараджэння (1939 г.) **Уладзіміра Бабкова**, гісторыка і палітолага, члена-карэспандэнта НАН Беларусі.

**26 лютага -** 100 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Мельнікава**, беларускага літаратуразнаўца, пісьменніка-мемуарыста, кандыдата педагагічных навук, дацэнта.

**27 лютага -** 290 гадоў з дня нараджэння **Караля Станіслава Радзівіла** (мянушка Пане Каханку, 1734-1790), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, сына М.К. Радзівіла Рыбанькі.

### САКАВІК

**4 сакавіка -** 110 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Шведзіка,** беларускага паэта.

**4 сакавіка -** 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Коршунава**, беларускага літаратуразнаўца, тэкстолага.

**6 сакавіка -** 125 гадоў з дня нараджэння **Пятра Самцэвіча**, беларускага лінгвіста, фалькларыста.

**8 сакавіка -** 110 гадоў з дня нараджэння **Якава Зяльдовіча** (1914 -- 1987), фізіка-тэарэтыка, акадэміка АН СССР (1958 г.), тройчы Героя Сацыялістычнай Працы (1949, 1953, 1956 гг.).

**10 сакавіка -** 135 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Пігулеўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, пісьменніка.

**12 сакавіка -** 110 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Клішэвіча**, паэта.

**13 сакавіка -** 90 гадоў з дня нараджэння **Аўгінні Кавалюк**, беларускай паэткі.

**18 сакавіка -** 130 гадоў з дня нараджэння **Альбіна Стаповіча**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, кампазітара, музычнага педагога.

**20 сакавіка -** 135 гадоў з дня нараджэння **Часлава Родзевіча**, беларускага тэатральнага і грамадскага дзеяча.

**21 сакавіка -** 125 гадоў з дня нараджэння **Міколы Ільінскага,** беларускага драматурга, празаіка, акцёра.

**25 сакавіка -** 110 гадоў з дня нараджэння **Ганны Новік**, беларускай паэтэсы, празаіка.

**27 сакавіка** – 525 гадоў з часу





# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

надання гораду Менску самакіравання паводле Магдэбургскага права.

**28 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Цвіркі**, паэта, перакладчыка, выдаўца.



**Сакавік** - 40 гадоў таму ў Менску створаны культурна-асветніцкі клуб **"Спадчына"**.

**КРАСАВІК**

**1 красавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Васіля Струменя**, беларускага і ўкраінскага паэта, удзельніка вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі (20-30-я гг.).

**6 красавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Міколы Хведаровіча**, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**8 красавіка** - 445 гадоў таму (1579 г.) **мястэчка Мір** атрымала Магдэбургскае права.

**13 красавіка** - 230 гадоў таму (1794 г.) пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам **Тадэвуша Касцюшкі**.

**13 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Лісіцына**, беларускага паэта.

**16 красавіка** - 160 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Слупскага**, гісторыка археолага.

**17 красавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Валахановіча**, гісторыка, журналіста, пісьменніка.

**18 красавіка** - 210 гадоў з дня нараджэння **Яўстафія Тышкевіча**, беларускага гісторыка, археолага, краязнаўца.

**18 красавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Пуроўскага**, беларускага фальклярыста спевака.

**20 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Лецкі**, беларускага літаратуразнаўца, пісьменніка, краязнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**22 красавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Валерыя Атрашкевіча**, беларускага літаратуразнаўца.

**23 красавіка** - 230 гадоў таму (1794 г.) у Вільні ўтвораны паўстанцкі ўрад ВКЛ - **Найвышэйшая рада літоўскага народа**.

**23 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Конана**, беларускага філосафа, літаратуразнаўца.

**24 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Зянона Пазьняка**, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, тэатразнаўца, археолага, публіцыста, паэта, кандыдата мастацтвазнаўства.

**24 красавіка** – 65 гадоў таму (1959 г.) адкрыты **Лідскі краязнаўчы музей.**

**25 красавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Васіля Барысенкі**, беларускага літаратуразнаўца, крытыка.

**26 красавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Ільі Гурскага**, беларускага празаіка, драматурга.

**26 красавіка** - 60 гадоў таму (1964 г.) у **Маладзечне** адкрыты Менскі абласны краязнаўчы музей.

**27 красавіка** - 185 гадоў з дня нараджэння **Мсціслава Камінскага** (1839-1868), этнографа, фальклярыста, публіцыста.

**28 красавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Зінаіды Бандарэнкі**, дыктара тэлебачання, народнай артысткі Беларусі.

**Красавік** - 160 гадоў таму (1864 г.) пачала дзейнасць Археалагічная камісія ў Вільні. Спыніла дзейнасць у 1915 г.

**ТРАВЕНЬ**

**1 траўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Алены Ленсу**, беларускага літаратуразнаўца, крытыка.

**1 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міколы Корзуна**, беларускага празаіка.

**2 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Гардзіцкага**, беларускага крытыка.

**2 траўня** - 80 гадоў з часу заснавання (1944 г.) у Менску **Літаратурнага музея** Янкі Купалы.

**6 траўня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Паўлюка Труса**, беларускага паэта.

**9 траўня** - 175 гадоў з дня нараджэння **Вітольда Карлавіча Цэраскага** (1849-1925), астранома, педагога.

**11 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Марыі Шаўчонак**, беларускай паэткі, журналісткі.

**11 траўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Марыі Лойкі**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**12 траўня** - 70 гадоў таму (1954 г.) БССР стала членам **ЮНЕСКА**.

**19 траўня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Васіля Іосіфавіча Гуркі** (1864 - 1937), расійскага ваеннага дзеяча, генерала ад кавалерыі.

**24 траўня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Адама Русака**, беларускага паэта песенніка.







# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

**28 траўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Побаля** (1924 -- 2004), археолага.

**30 траўня** - 425 г. таму (1599 г.) заснаваны **Мірскі Мікалаеўскі касцёл.**

**30 траўня** - 25 гадоў таму ў Менску ў пераходзе станцыі метро **"Няміга"** ў выніку панікі загінулі 53 чалавекі.

**ЧЭРВЕНЬ**

**5 чэрвеня** - 170 гадоў з дня нараджэння **Юдаля Пэна**, беларускага жывапісца, педагога.

**8-14 чэрвеня** - 90 гадоў таму (1934 г.) адбыўся **І Усебеларускі з'езд пісьменнікаў.**

**10 чэрвеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Хведара Чэрні**, беларускага паэта.

**13 чэрвеня** - 190 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Вераніцына** (1834-1904), верагоднага аўтара паэмы "Тарас на Парнасе".

**16 чэрвеня** - 435 гадоў з дня нараджэння **Альбрыхта Радзівіла**, дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**16 чэрвеня** - 190 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Ельскага** (1834-1916) пісьменніка, гісторыка, этнографа, краязнаўца, публіцыста.

**19 чэрвеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Васіля Быкава** (1924-2003), народнага пісьменніка, Беларусі, грамадскага дзеяча.



**21 чэрвеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Сержпутоўскага** (1864-1940), беларускага этнографа, фалькларыста.

**22 чэрвеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Германа Мінкоўскага** (1864 - 1909), матэматыка і фізіка, аднаго з заснавальнікаў тэорыі адноснасці.

**22 чэрвеня** - 100 гадоў з дня наравджэння **Івана Козырава**, беларускага мовазнаўца.

**22 чэрвеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Хаўратовіча**, беларускага паэта.

**23 чэрвеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Віктара Хруля**, вучонага ў галіне журналістыкі, сацыялогіі, кандыдата філалагічных навук.

**24 чэрвеня** - 60 гадоў таму (1964 г.) у в. Цімкавічы Капыльскага раёна адкрыты Мемарыяльны **літаратурны музей Кузьмы Чорнага**.

**24-25 чэрвеня** - 35 гадоў таму назад у Вільні адбыўся Устаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту **"Адраджэньне"**.

**25 чэрвеня** - 230 гадоў таму (1794 г.) паўстанцкія войскі ВКЛ пацярпелі паражэнне ад расійскіх войск каля мястэчка **Солы**.

**25 чэрвеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Варлена Бечыка**, беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**26 чэрвеня** - 100 гадоў з дня заснавання (1924) у Празе **Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый** (АБСА). Існавала да 1939 г.

**26 чэрвеня** – 50 гадоў таму (1974 г.) г. Менску прысвоена ганаровае званне "Горад-герой". Л.І. Брэжнеў уручыў ордэн Леніна і медаль "Залатая Зорка" г. Менску толькі ў 1978 г.

**27 чэрвеня** - 220 гадоў з дня нараджэння **Рафала Слізня**, беларускага скульптара, жывапісца, медальера, архітэктара.

**27 чэрвеня** - 35 гадоў з дня **Устаноўчага з'езда** Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

**28 чэрвеня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Вольгі Сахаравай**, беларускай паэтэсы, драматурга.

**28 чэрвеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Савіцкага**, беларускага празаіка, паэта.

**Канец чэрвеня** - 80 гадоў з часу правядзеня ІІ **Усебеларускага кангрэса**.

**ЛІПЕНЬ**

**3 ліпеня** - 80 гадоў вызвалення Менска ў выніку **аперацыі Багратыён**.

**4 ліпеня** - 70 гадоў таму (1954 г.) у Менску адкрыты **Манумент Перамогі**.

**5 ліпеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Каранеўскага**, беларускага краязнаўца, журналіста.

**6 ліпеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Аўфрасінні Гарэцкай**, беларускай народнай спявачкі, маці Максіма Гарэцкага.

**6 ліпеня** - 35 гадоў таму (1989 г.) у Беларусі ўрачыста адзначалася **Купалле**. З таго часу адзачаецца яно штогод.

**7 ліпеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Курто**, беларускага празаіка.

**10 ліпеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Ірыны Саматыі**, беларускага мовазнаўца.

**11 ліпеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Вуячыча**, беларускага спевака, народнага артыста Беларусі.







# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

**15 ліпеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Вітаўта Рамука**, беларускага культурнага дзеяча на эміграцыі.

**17 ліпеня** - 100 гадоў таму (1924 г.) **тэрыторыя БССР** была падзелена на 10 акруг (100 раёнаў і 1202 сельсаветы).

**17 ліпеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Зінаіды Данільчык**, беларускага мовазнаўца.

**20 ліпеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Анічэнкі**, беларускага мовазнаўца.

**20 ліпеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Міколы Лук'янава**, беларускага празаіка.

**21 ліпеня** - 360 гадоў з дня нараджэння **Пятра Пузыні**, беларускага і польскага педагога, пісьменніка.

**23 ліпеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Кірвеля**, беларускага пісьменніка.

**23 ліпеня** – 75 гадоў таму (1949 г.) заснаваны **Менская цэнтральная бібліятэка імя Янкі Купалы.**

**28 ліпеня** - 80 гадоў таму (1944 г.) войскі І-га Беларускага фронту вызвалілі **г. Берасце** ад нямецка-нацысцкіх акупантаў. Завершана вызваленне Беларусі ад акупацыі.

**31 ліпеня** – 375 гадоў таму (1649 г.) адбылася бітва пад **Лоевам** паміж аб'яднанымі казацкімі атрадамі на чале з Міхаілам Крычаўскім і войскам Вялікага Княства Літоўскага.

**ЖНІВЕНЬ**

**1 жніўня** - 110 гадоў з дня пачатку **Першай сусветнай вайны**.

**2 жніўня** - 475 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі** (1549-1616), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча ВКЛ

**3 жніўня** - 40 гадоў таму (1984 г.) уведзены ў эксплуатацыю ўчастак першай лініі **Менскага метрапалітэна.**

**4 жніўня** - 80 гадоў таму заснаваны **МАЗ.**

**5 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Жураўскага**, беларускага мовазнаўца.

**6 жніўня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Хлябцэвіча**, кнігазнаўца, літаратуразнаўца, кандыдата педагагічных навук.

**7 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Алега Трусава**, шматгадовага старшыні ТБМ, кандыдата гістарычных навук.



**12 жніўня** – 625 гадоў таму (1399 г.) адбылася бітва на р. **Ворскла**, у час якой загінуў князь Андрэй Полацкі.

**12 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Міколы Сямашкі**, беларускага паэта.

**12 жніўня** - 20 гадоў таму ў Інтэрнэт-энцыклапедыі **"Вікіпедыя"** з'явіўся беларускамоўны раздзел (беларуская энцыклапедыя).

**14 жніўня** - 230 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Балінскага** (1794 - 22.12.1883 г.), гісторыка і публіцыста.

**18 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Васіля Бурносава**, беларускага крытыка, літаратуразнаўца, перакладчыка.

**19 жніўня** - 160 гадоў з дня нараджэння чэшскага пісьменніка, вучонага-славіста, папулярызатара грамадскага і культурнага жыцця беларусаў **Адольфа Чэрнага**. Пасля наведвання Беларусі выдаў у 1895 г. кнігу "Беларускія песні з Дзісненскага павета Віленскай губерні. Пераклаўдаў вершы Цёткі, Купалы, Коласа.

**20 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міхася Парахневіча**, беларускага паэта, празаіка, публіцыста.

**28 жніўня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Уласава** (1874 - 1941), грамадскага дзеяча, выдаўца, публіцыста.



**28 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Валянціны Караткевіч**, беларускага гісторыка, археолага, кандыдата гістарычных навук.

**28 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Змітра Бяспалага**, беларускага празаіка.

**28 жніўня** – 75 гадоў з дня нараджэня **Алега Рыгоравіча Бухаўца**, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры паліталогіі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.

**30 жніўня** - 220 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Ходзькі** (Барэйка 1804-1891 г.), паэта, фалькларыста, славяна-, усходазнаўца.

**ВЕРАСЕНЬ**

**1 верасня** - 85 гадоў з дня пачатку **Другой сусветнай вайны**. Германія напала на Польшчу.

**1 верасня** - 20 гадоў таму адкрыты **Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт**.

**2 верасня** - 135 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Шапялевіча**, беларускага мовазнаўца, педагога.





# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

**4 верасня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Майсея Тэйфа**, беларускага паэта, празаіка.

**6 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Паўлюка Шукайлы**, беларускага паэта, крытыка.

**7 верасня** - 310 гадоў з дня нараджэння **Міхала Карыцкага** (1714, м. Дзітрыкі, Лідчына) паэта-лацініста (зборнік "Песні" на лацінскай мове).

**8 верасня** - 510 гадоў **Аршанскай бітвы**.

**9 верасня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Шурпы**, беларускага паэта, педагога, журналіста.

**11 верасня** - 190 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Авенарыуса**, археолага, краязнаўца.

**13 верасня** - 50 гадоў таму (1974 г.) Беларуская рэспубліканская студыя тэлебачання пачала каляровыя перадачы.

**14 верасня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Ф. Абрантовіча** (1884-1946), рэлігійнага і грамадскага дзеяча.

**17 верасня** - 250 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Тышкевіча**, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**17 верасня** - 230 гадоў таму (1794 г.) адбыўся **Крупчыцкі бой** каля в. Крупчыцы (цяпер Жабінкаўскі раён) паўстанцаў на чале з К. Сераkоўскім з расійскімі войскамі на чале з А. В. Суворавым.

**17 верасня** - 85 гадоў **уз'яднання** Заходняй Беларусі з Усходняй.

**17 верасня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Дзмітравіча Карпенкі** (1949-1999), палітычнага і дзяржаўнага дзеяча.

**21 верасня** - 230 гадоў з дня нараджэння **Кандрація Іванавіча Грум-Гржымайлы** (1794-1874), вучонага ў галіне хірургіі.

**23 верасня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Артура Вольскага**, беларускага паэта, драматурга, перакладчыка.

**24 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Мар'яна Пецюкевіча,** беларускага грамадска-культурнага дзеяча, этнографа.

**25 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Смаршчка**, беларускага культурнага дзеяча на эміграцыі, праваслаўнага святара, доктара педагогікі, прафесара.

**30 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Данілы Міцкевіча**.

## КАСТРЫЧНІК

**1 кастрычніка** - 80 гадоў з дня заснавання **Берасцейскага тэатра** драмы і музыкі.

**4 кастрычніка** - 275 гадоў з дня нараджэння **Францішка Дыянізы Князьніна** (1749 - 1807), беларускага па-эта, драматурга, перакладчыка.

**5 кастрычніка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Ф. Грынкевіча** (1884-1933), дзеяча культуры і рэлігіі.

**7 кастрычніка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Паўлавіча Благіна**, лётчыка- выпрабавальніка.

**13 кастрычніка** - 125 гадоў з дня нараджэння **М. Жыркевіча** (1899-1984), педагога, аўтара школьных падручнікаў па беларускай мове.

**15 кастрычніка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Лявона Случаніна**, беларускага паэта.

**21 кастрычніка** - 110 гадоў з дня нараджэння (1914) **Казіміра Свёнтка**, першага кардынала новай Беларусі.



**23 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння (1924) **Івана Лепешава**, мовазнаўца.



**24 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Карласа Шэрмана**, беларускага перакладчыка, паэта, крытыка.

**24 кастрычніка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Мішанчука**, беларускага паэта і літаратуразнаўца.

**28 кастрычніка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Ф.П. Ждановіча** (1884-1937), акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча.

**28 кастрычніка** - 60 гадоў таму назад створана **Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР.**

**29 кастрычніка** - 70 гадоў з дня заснавання (1954) **Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**.

**Кастрычнік** - 35 гадоў таму ўтвораны Беларускі экзархат **- Беларуская праваслаўная царква.**

## ЛІСТАПАД

**3 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Паўла Леановіча**, беларускага празаіка, публіцыста.

**7 лістапада** - 80 гадоў таму (1944 г.) ў Менску адкрыты Беларускі дзяржаўны **музей Вялікай Айчыннай вайны.**





# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

**7 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **Міхася Мельніка**, паэта, першага старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.



**8 лістапада** - 240 гадоў з дня нараджэння **Тодара Нарбута**, бацькі беларускіх гісторыкаў.



**10 лістапада** – 275 гадоў з дня нарадээння **Мацея Радзівіла** (1749-1800), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, драматурга, кампазітара, удзельніка паўстання 1794 г.

**10 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Івана Курбекі**, паэта, літаратуразнаўца.

**11 лістапада** - 310 гадоў з дня нараджэння **Марціна Матушэвіча,** пісьменніка-мемуарыста, перакладчыка.

**11 лістапада** - 25 гадоў таму адкрыты **Старадарожскі мастацкі музей** (фонд А.Я. Белага).

**13 лістапада** - 530 гадоў таму горад Высокае атрымаў Магдэбургскае права.

**14 лістапада** - 85 гадоў таму 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прыняла закон "Аб прыняцці **Заходняй Беларусі** ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі". У выніку насельніцтва Беларусі павялічылася да 11 млн. чалавек.

**16 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Семяжона**, беларускага перакладчыка, паэта, празаіка.

**19 лістапада** - 240 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Баброўскаага**, беларускага славіста, арыенталіста.

**22 лістапада** - 70 гадоў з дня нараджэння **Святланы Марозавай**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара.

**23 лістапада** - 200 гадоў з дня нараджэння **Баляслава Русецкага**, беларускага мастака.

**25 лістапада** - 310 гадоў з дня нараджэння **Тамаша Жаброўскага**, беларускага асветніка, архітэктара, астранома, матэматыка, прафесара.

**25 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Падгайскага**, беларускага мовазнаўца.

**30 лістапада** - 125 гадоў з дня нараджэння **Міхася Лынькова** (Міхася Ціханавіча, 1899-1975), пісьменніка літаратуразнаўца, Народнага пісьменніка Беларусі.



**СНЕЖАНЬ**

**1 снежня** - 35 гадоў з дня правядзення ў Гародні гарадской устаноўчай канферэнцыі **Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

**5 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Няхая**, беларускага паэта.

**5 снежня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Віктара Трасцянскага**, беларускага паэта.

**10 снежня** - 450 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Лянчыцкага**, дзеяча беларускай культуры.

**10 снежня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Белага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, кіраўніка клуба "Спадчына", стваральніка Старадарожскага мастацкага музея.



**12 снежня** - 210 гадоў з дня нараджэння **Адама Завацкага**, друкара, выдаўца.

**14 снежня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Антонія Флароўскага,** рускага і чэшскага гісторыка-славіста, даследчыка жыцця і творчасці Ф. Скарыны.

**14 снежня** - 130 гадоў з дня нара-джэння **Пятра Юргялевіча**, беларускага мовазнаўца, дацэнта.

**16 снежня** - 85 гадоў з дня нараджэння (1939 г.) **Зьніча** (сапр. А.А. Бембель), паэта, публіцыста, філосафа.

**16 снежня** - 35 гадоў таму назад утворана **Лідская гарадская арганізацыя ТБМ** імя Ф. Скарыны.

**21 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Івана Чыгрынава** (1934 - 5.1.1996), народнага пісьменніка Беларусі.





# Юбілейныя і памятныя даты 2024 года

**24 снежня -** 240 гадоў з дня нараджэння **Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага** (сапр. Адам Чарноцкі, 1784-1825), славяназнаўца, археолага, гісторыка, фалькларыста, дыялектолага, этнографа.



**24 снежня -** 120 гадоў з дня нараджэння **Алеся Дудара**, беларускага паэта.

**25 снежня -** 190 гадоў з дня нараджэння **Нікадзіма Сільвановіча**, мастака.

**25 снежня -** 120 гадоў з дня нараджэння **Міхася Чавускага**, беларускага празаіка.

**25 снежня -** 120 гадоў з дня на-раджэння **Тацяны Сцяшковіч**, бела-рускага мовазнаўца.

**28 снежня -** 35 гадоў таму (1989 г.) створана **Беларускае краязнаўчае таварыства**.

**У 2024 годзе:**

**1050 гадоў** гораду Віцебску.

**980 гадоў** таму назад - пачатак княжання ў Полацку **Усяслава Чарадзея.**

**980 гадоў** з часу першых пісьмовых звестак пра горад Навагародак.

**660 гадоў** з дня нараджэння **Рыгора Цамблака** (1364-1450), рэлігійнага дзеяча, пісьменніка, першага мітрапаліта ў ВКЛ.

**640 гадоў** таму (1384 г.) герб “Пагоня” стаў дзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага.

**625 гадоў** (1399 г.) гандлёваму дагавору Полацка з горадам Рыгаю.

**530 гадоў** таму назад Высокае атрымала Магдэбургскае права (1494).

**475 гадоў** таму (1539 г.) быў пабудаваны Аўгустоўскі канал. Будаўніцтва пачалося ў 1524 г., адноўлены ў 2007 г.

**450 гадоў** з дня нараджэння **Іосіфа Вельяміна Руцкага**, беларускага царкоўнага дзеяча, пісьменніка, педагога, філосафа.

**425 гадоў** гораду Вілейка. У 1599 г. упершыню ўпамінаецца ў крыніцах як цэнтр староства.

**400 гадоў** з дня заснавання (1624) **Наваградскага школьнага тэатра**. Існаваў да 1761 года.

**300 гадоў** з дня заснавання (1724) **Нясвіжскай капэлы Радзівілаў**. Існавала да 1809 г.

**290 гадоў** з дня нараджэння **Антона Грушэцкага** (1734-1798), беларускага жывапісца, графіка.

**280 гадоў** з дня заснавання (1744) **Слонімскага школьнага тэатра**. Існаваў да 1769 г.

**250 гадоў** з дня стварэння (1774) **Гарадзенскай музычна-тэатральнай школы** Тызенгаўза. Існавала да 1780 г.

**230 гадоў** з дня нараджэння **Яна Баршчэўскага.**

**220 гадоў** з дня нараджэння **Юзафа Азямблоўскага** (каля 1804-1878), графіка.

**220 гадоў** з дня нараджэння **Мікіты Гарбачэўскага** (1804-1879) беларускага вучонага-архівіста, мовазнаўца.

**210 гадоў** з дня нараджэння **Іосіфа Гашкевіч**а, першага консула Расейскай Імперыі ў Японіі.

**200 гадоў** з дня нараджэння **Юльяна Бакшанскага** (1824-1863), публіцыста, удзельніка паўстання 1863-1864 гг.

**180 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Троіцкага** (1844-1887), беларускага этнографа, фалькларыста.

**170 гадоў** з дня нараджэння **Тарэзы Гардзялкоўскай,** беларускай перакладчыцы, выдаўца.

**160 гадоў** з дня нараджэння **Эмы Яленскай** (па мужу **Дмахоўскай**), беларускай фалькларысткі і этнографа.

**160 гадоў** з дня заснавання (1864) **Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.** Існавала да 1920 г.

**130 гадоў** з дня нараджэння **Альфонса Петрашкевіча**, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**130 гадоў** з дня нараджэння **Ісака Мільчына**, беларускага графіка.

**110 гадоў** з дня нараджэння **Рыгора Жалязняка**, беларускага паэта, літаратуразнаўца.

**100 гадоў** з пачатку (1924) **беларусізацыі БССР.**

**100 гадоў** з дня заснавання **Менскага музычнага вучылішча** імя М.І. Глінкі. .

**100 гадоў** з дня заснавання (1924) **Музея беларускага Палесся**.

**100 гадоў** з дня заснавання (1924) часопіса для жанчын. Да 1995 года - **“Работніца і сялянка”**, цяпер - **“Алеся”**.

**90 гадоў** з дня пачатку выдання ў Заходняй Беларусі ілюстраванага часопіса для дзяцей **“Пралескі”**. Выходзіў да 1939 г.

**80 гадоў** з дня заснавання Гарадзенскага дзяржаўнага **універсітэта імя Янкі Купалы.**

**70 гадоў** з дня заснавання (1954) **Гомельскага абласнога драматычнага тэатра**.

**50 гадоў** з дня заснавання (1974) Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля **“Харошкі”**.

**50 гадоў** з дня заснавання (1974) творчага аб’яднання “Студыя **“Сябры”** пад кіраўніцтвам А. Ярмоленкі.

**50 гадоў** з дня заснавання (1974) вакальна-інструментальнага ансамбля **“Верасы”** пад кіраўніцтвам В. Раінчыка.

**50 гадоў** ад пачатку правядзення (1974) Міжнароднага штогадовага фестываля **“Беларуская музычная восень”**.

*Укладальнік*
***Станіслаў Суднік.***

# Спыняе дзейнасць Беларускі фонд культуры

У Менску адбыўся агульны сход сяброў Грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд культуры".




Яго сябры падвялі вынікі дзейнасці фонду на працягу 35 гадоў (1988-2023). Выступоўцы адзначылі яго багатую гісторыю, рэалізаваную вялікую колькасць розных праектаў, якія звязаныя былі найперш з гістарычна-культурнай спадчынай беларускага народа.

Але ў сувязі з адсутнасцю фінансавых сродкаў і ў сувязі з іншымі прычынамі на агульным сходзе было прынята рашэнне аб спыненні дзейнасці грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд культуры". Фонд спыняе сваё існаванне з 5 студзеня 2024 года.

***Паводле СМІ.***

# Часопіс "Дзеяслоў" спыняе свой выхад

Апошні нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Дзеяслоў" (№ 6 (127) паведаміў сваім чытачам, што ўжо не будзе выходзіць.




Больш за 20 гадоў "Дзеяслоў" штодвамесяцы, не зважаючы на розныя праблемы і перашкоды, выходзіў бесперапынна і радаваў аматараў літаратуры новымі творамі сучасных беларускіх і замежных аўтараў. Выйшла 127 нумароў сапраўднай анталогіі беларускай сучаснай літаратуры.

На вялікі жаль, "Дзеяслоў" спыняе свой выхад. Гэта чарговае беларускамоўнае выданне, якое трапіла ў плынь закрытых беларускамоўных часопісаў і газет.

Далей, быццам бы, "Дзеяслоў" будзе выходзіць як нерэгулярны альманах.

***Паводле СМІ.***

# Памёр Яўген Гучок



На 84-м годзе жыцця не стала беларускага пісьменніка, краязнаўца, выдаўца, грамадска-палітычнага дзеяча Яўгена Гучка.

Яўген Гучок нарадзіўся 4 лістапада 1940 года ў горадзе Слуцку ў рабочай сям"і. Пасля вучобы ў Слуцкай сярэдняй школе № 9 Яўген Гучок працаваў у геалагічным атрадзе, на мэблевай фабрыцы. У 1960 – 1963 гадах служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1968), а крыху пазней – і аспірантуру пры ім. Вучыўся ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце. Працаваў настаўнікам, а з 1971 года на працягу трыццаці гадоў – рэдактарам і вядучым рэдактарам у выдавецтве «Народная асвета». Быў праваздзейным членам геаграфічнага таварыства СССР, з 1984 года – сябрам Менскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба «Спадчына». За актыўны ўдзел у жыцці клуба, напісанне высокамастацкага верша, прысвечанага выступленню Міколы Ермаловіча ў клубе, Камітэтам Ушанавання ўзнагароджаны медалём Міколы Ермаловіча і адпаведным дыпломам (2006). Занесены ў Кнігу гонару «Рупліўцы твае, Беларусь». У свой час удзельнічаў у арганізацыі грамадскага аб"яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», а таксама Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

Першыя вершы Яўгена Гучка былі змешчаны ў 1959 годзе ў слуцкай раённай газеце «За сацыялістычную Радзіму». З таго часу выйшлі з друку яго кнігі паэзіі, прозы і публіцыстыкі «Блакітныя чмялі», «Паэма дзяцінства» (абедзве 1983), «Сэрцам і думкай» (1994), «Формула травы» (1997, 2002 – другое выданне), «На патрэбу душы» (2004), «Necropolis» (2009), «Ах, Родчанка!.» (2011), «Беларусь у Магдэбургскім праве» (2013), «Альгерд Абуховіч. Зачараваны беларускім словам» (2014) і іншыя.

Светлая памяць патрыёту Беларусі.





# У Лідскім раёне адкрылася першае дашкольнае лясніцтва "Вавёрачка"

Яго ўдзельнікамі сталі 10 выхаванцаў дашкольнай адукацыі Ваверской сярэдняй школы, якія тройчы прамовілі: "Клянёмся!" і ўрачыста паабяцалі беражна адносіцца да прыроды.




Пасвячэнне дзяцей у юныя лесаводы прайшло ў святочнай атмасферы. У цэнтры ўвагі - яны, прыбраныя хлопчыкі і дзяўчынкі ў адмыслова пашытай для іх прыгожай форме. У прысутнасці педагогаў, бацькоў і ганаровых гасцей - прадстаўнікоў Лідскага лягсаса - дзеці абяцалі берагчы прыроду і дапамагаць захоўваць лясное багацце роднага краю. У выкананні дзяцей таксама прагучалі вершы пра любоў да лесу.





Трэба дадаць, што ў Лідскім раёне паспяхова працуюць восем школьных лясніцтваў, а вось дашкольнае - першае.

***lidanews.***

# Пад Лідай расце ўнікальны "жывы" лабірынт

Пяць кіламетраў ад Ліды знаходзіцца старадаўні парк "Гарні". А на яго тэрыторыі размясціўся першы ў Беларусі "жывы" лабірынт з туй, распавядае ОНТ.

Дрэвы былі высаджаны яшчэ ў 2017 годзе. Яны ўжо досыць высокія. Таму пакружыць па лабірынце будзе цікава і дарослым, і дзецям.

Распрацоўкай схемы лабірынта займаліся спецыялісты Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В.Ф. Купрэвіча НАН. А потым супрацоўнікі трох лясніцтваў высадзілі парадку 1500 туй на плошчы 25х37 метраў.





Каб знайсці выйсце з "жывога" лабірынта, наведвальнікам давядзецца пераадолець дыстанцыю 400 метраў. Знайсці правільны шлях не так ужо і проста - у лабірынце ёсць нямала тупікоў.

Дарэчы, у самым парку "Гарні", які быў закладзены яшчэ ў 1881 годзе Імператарскай лясной аховай, апроч "жывога" лабірынта ёсць і іншыя цікавыя адметнасці. Тут размешчаны Алея казак, Музей лясной гаспадаркі Гарадзенскай вобласці, экалагічны клас для школьнікаў, хатка "У гасцях у пчол". Ёсць на тэрыторыі і апідомікі - гэта невялікія хаткі, пад якімі размешчаны вуллі. Паветра, прасякнутае водарам праполісу, мёда і воску, а таксама меладычнае гудзенне пчол дабратворна ўплываюць на арганізм чалавека.

***АНТ***





# 100 гадоў паэту Анатолю Вялюгіну

27 снежня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, кінадраматурга і перакладчыка Анатоля Вялюгіна (1923-1994).



Анатоль Вялюгін нарадзіўся ў вёсцы Машканы Сенненскага раёна ў сям'і фельчара. У 1934 годзе пачалі друкавацца яго нататкі і замалёўкі ў часопісе "Іскры Ільіча", газетах "Піянер Беларусі", "Віцебскі рабочы". У 1938 годзе ў часопісе "Полымя рэвалюцыі" быў надрукаваны яго першы паэтычны твор - верш "Матчына песня".

У 1939 годзе Анатоль Вялюгін паступіў на літаратурны факультэт Менскага педагагічнага інстытута. Вучыўся і адначасова працаваў у рэдакцыях газет "Звязда", "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі". Восенню 1940 года стаў вольным слухачом сцэнарнага факультэта Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі, дзе лекцыі чытаў рэжысёр Аляксандр Даўжэнка.

У гады Другой сусветнай вайны малады паэт разам з роднымі эвакуяваўся на Урал, дзе ён вучыўся ў Свярдлоўскім педагагічным інстытуце. У 1942 годзе Анатоль Вялюгін стаў курсантам Лугінскай авіяцыйнай школы. Ён удзельнічаў у баях на Сталінградскім фронце, дзе атрымаў раненне.

У 1945-1946 гадах паэт-франтавік працаваў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" ў Менску. У 1946 годзе яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, а ў 1947 годзе выйшла першая кніга паэта "Салют у Менску". У 1948 годзе літаратар скончыў Менскі педагагічны інстытут. У 1946-1984 гадах з невялікімі перапынкамі працаваў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Полымя".

За зборнік вершаў "Голуб на вежы" паэт атрымаў званне лаўрэата Першай ступені Усебеларускага фестывалю моладзі. У 1964 годзе за паэму "Вецер з Волгі" была прысуджана Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы.

Аўтар зборнікаў "Салют у Мінску" (1947), "Негарэльская арка" (1949), "На зоры займае" (1958), "Насцеж" (1960), "Песня зялёнага дуба" (1989), "З белага камення - сіняе пламенне" (1993) і іншых паэтычных зборнікаў для дзяцей. Па яго сцэнарыях на кінастудыі знята 45 дакументальных стужак, з іх 16 - поўнаметражныя. Пастаўлены мастацкія кінафільмы: двухсерыйны "Рэха ў пушчы" (1977), "Глядзіце на траву" (1983) паводле ваенных навел Янкі Брыля. У 1968 годзе за сцэнарый хранікальна-дакументальнага фільма "Генерал Пушча" быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1969).






*Анатоль Вялюгін, Еўдакія Лось, Уладзімір Караткевіч*

Вершы паэта, пакладзеныя на музыку Ігарам Лучанком, сталі шырока вядомымі песнямі. Сярод іх - "Бярозка", "Закасі мае вёсны", "Сын зямлі на віхурнай арбіце". Апошняя кніга паэзіі "Заклён на скрутны вір" выйшла ў свет пасля смерці пісьменніка ў 1995 годзе.

***Паводле СМІ.***




*Ежы Хопен*

# Абразы святога Казіміра

Самай старой выявай св. Казіміра ў Вільні, з'яўляецца абраз, усталяваны ў алтары ў капліцы св. Казіміра пры віленскай базіліцы.

Паколькі, да нашага часу гэта абраз не быў навукова даследаваны, а зараз падчас рамонту капліцы ён застаўся на сваім месцы і стаў недаступны бо накрыты і абаронены ад пылу і пашкоджанняў, дык таму нашы веды пра яго будуць абапірацца на старыя крыніцы.

Размова ідзе пра агульнавядомы "Трохрукі абраз св. Казіміра". На ім св. Казімір стаіць у доўгім княжацкім уборы з мітрай на галаве, у левай руцэ святы трымае крыж, а ў правай - лілею. Уся постаць святога і агульны фон закрыты кутай срэбрай шатай. Асаблівасцю абраза ёсць адна вельмі цікавая дэталь, а менавіта, святы мае дзве правыя рукі, у якіх трымае лілеі.



Адна рука адводзіцца ад тулава, а другая прыціскаецца да яго. Паколькі каваная срэбная рыза пакрывае ўвесь абраз, пакідаючы толькі твар і рукі святога, маюцца тры адтуліны праз якія бачны тры рукі.

Гэта, здавалася б, дзіўная ў іканаграфіі з'ява, цалка зразумелая любому мастаку, які змагаўся з цяжкасцямі кампазіцыі пры гэтым не мог канчаткова вызначыцца і вырашыць, як перадаць рух намаляваных ім рук. Традыцыя, звязаная з гэтым абразом, цалкам пацвярджае творчыя пакуты невядомага аўтара. Гэта важная і сімпатычная дэталь, якая паказвае нам, як у мінулым цанілі і разумелі майстра-жывапісца і яго цяжкую працу.

Аднак ёсць яшчэ і іншы бок гэтай справы, які ўжо з'яўляецца часткай сферы звышнатуральныга. Па легендзе, нягледзячы на цяжкія намаганні, аўтар абраза нібыта не змог зафарбаваць адну з гэтых лішніх рук, бо яна заўсёды заставалася бачнай з-пад слаёў фарбы.

У "Каралеўскай дарозе на неба, ці Жыцці св. Казіміра", выдадзенай дзякуючы намаганням віленскага біскупа Антонія Тышкевіча ў 1762 г., знаходзім наступныя звесткі пра гэты абраз: *"Лепшы віленскі мастак, пасля таго як намаляваў абраз св. Казіміра, уважліва углядаўся ў сваю працу каб не прапусціць нейкія недахопы свайго выбітнага мастацкага твора. І яму пачало здавацца, што адна рука святога даўжэйшай за другую. Тады ён паправіў памылку - нама-*





*ляваў трэцюю, прыхіленую да тулава руку і зафарбаваў тую, якая здавалася яму няправільнай. Але адбыўся цуд - зафарбаваная рука засталася бачнай і ніякімі фарбамі зафарбаваць яе ўжо не ўдалося. Так нашчадкі атрымалі "Трохрукага святога каралевіча Казіміра".*

Гамаліцкі ў сваіх "Вобразах" сцвярджае, што ў 1838 г. падчас рэстаўрацыі гэтага абраза, з правага боку пад рызай быў знойдзены лацінскі надпіс: *"1594 renovatum"*. Паколькі абраз быў абноўлены ў 1594 г., дык ён павінен быў быць створаны значна раней, магчыма каля 1520 г., у час беатыфікацыі св. Казіміра.

Абраз намаляваны на дошцы, і, як бачна праз невялікія адтуліны на твары і руках, ён падобны да тыпу жывапісу кракаўскай школы таго часу. Безумоўна, прынцыпы малявання ў Вільні, тады былі аднолькавымі з Кракавам, і няма ніякіх падстаў меркаваць, што гэты абраз мае нявіленскае паходжанне.

Абраз на якім св. Казімір у княжацкім строі з лілеяй у адной руцэ і крыжыфіксам (распяццем - *Л. Л.*) у другой, становіцца агульнапрынятым і становіцца часткай традыцыі, якая доўжыцца да нашых дзён.

У перыяд барока вобразы святых былі насычаны новай, узбагаціўшай іканаграфію, сімволікай. З гэтых часоў разам з фігурай св. Казіміра часта прысутнічае і постаць Маці Божай, да якой, як вядома, святы меў асаблівую пашану, выказаную ў яго любімым гімне *"Omni die, die Mariae"* (*"Кожны дзень, Марыя" - Л. Л.*)

Між іншым, такі абраз згадвае аўтар той самай "Каралеўскай дарогі …": *"Спачатку ў Нідэрландах быў выстаўлены абраз, дзе св. Каралевіч апрануты ў пурпур і ўпрыгожаны княжацкай мітрай, з распяццем у правай руцэ і з трыма белымі лілеямі ў левай. Над ім намалявана Каралева Нябёсаў, а пад нагамі Каралевіча ляжыць венгерскі скіпетр і карона".*

У касцёле віленскім св. Тарэзы, над галоўным алтаром, знаходзіцца прыгожы барочны абраз св. Казіміра які пакланяецца Маці Божай.

У XVIII ст. сімволіка ўскладняецца. Ля падножжа св. Казіміра з'яўляецца купідон з лукам і стрэламі - увасабленне пагарджанага святым свецкага кахання. Абраз гэтага тыпу ёсць у нашай базыліцы, ён вісіць з права на сцяне каля вікарнага алтара. Намаляваны там св. Казімір, з-за крышку ўзнятай правай нагі, як быццам танцуе. Уважлівы разгляд абраза дазволіць убачыць прыціснутага ступнёй святога перакуленага купідончыка. На гэтым абразе яшчэ маюцца некалькі цікавых дэталяў. Св. Казімір намаляваны бландзінам, што не адпавядае традыцыі і рэальнасці, бо падчас першага адкрыцця труны з мошчамі святога ў XVII ст. выявілася, што ў яго былі вельмі чорныя валасы. Гэта мы бачым на фрэсцы ў капліцы св. Казіміра - у той час яшчэ жывой была традыцыя, распачатая з адкрыцця труны. Другая асаблівасць гэтага абраза ў катэдры - два анёлы з правага боку ад св. Казіміра, чые постаці аўтар запазычыў з кампазіцыі італьянскага мастака Карла Марата (абраз св. Станіслава Косткі). Магчыма, гэта запазычанне з'явілася пад уплывам гравюр, але і таксама магчыма, што гэта звязана з росквітам у тагачаснай Вільні вучня Мараты Чаховіча.

У 1749 г. згаданы тут біскуп Антон Тышкевіч выдаў гравюру на медзі з выявай постаці св. Казіміра з лілеямі і распяццем у руках. Святы стаіць на перакуленым зямным шары, пад нагамі ў яго прыціснуты купідон з завязанымі вачыма. Унізе ляжаць пагарджаныя ім карона, скіпетр і венгерскі герб. Усё гэта адбываецца на фоне былой капліцы св. Казіміра ў катэдры, каралеўскага замка, Замкавай гары і гары Трох крыжоў. Дастаткова дакладна намаляваны відарыс Вільні з'яўляецца добрым унёскам у калекцыю выяваў старой Вільні. У небе мы бачым укленчаную анёльскую постаць гэтага святога, які ўжо атрымаў карону і скіпетр сапраўднай улады - Нябеснай.

Гэтай сімвалічнай мовай XVIII ст. расказвала пра свае ўяўленні аб святасці.

На гэтых двух галоўных тыпах абразоў св. Казіміра, якія паходзяць з XVI і XVIII ст.ст. грунтуюцца і ўсе іншыя, што дайшлі да нас ў выглядзе алейных абразоў, скульптур, гравюр і народных дрэварытаў.

У "Каралеўскай дарозе …" аўтар згадвае некалькі іншых абразоў св. Казіміра, але не вядома пра якія творы ён расказвае. Мы даведваемся, што быў яшчэ нейкі абраз, на якім *"святы Каралевіч"* намаляваны *"з распяццем у правай руцэ і ў атачэнні лілій"*, а таксама абраз *"паміраючага св. Каралевіча"*. Ні самі гэтыя абразы ні іх копіі да нас не дайшлі.

На падставе разгледжанай тут Тышкевічавай гравюры на медзі канца XVIII - пачатку XIX ст. была выканана мноства алейных абразоў. Лічылася, што намаляваныя на іх Замкавая гара, замак і катэдра, выглядаюць так, якімі яны былі ў часы св. Казіміра і гэта, як быццам, надавала ім аўтэнтычнасці. Такое разуменне існуе і сёння і таму шматлікія гаспадары гэтых абразоў, лічаць, што яны намаляваны, можа нават у XV ст.

Па-за гэтымі разгледжанымі тут двума тыпамі абразоў, ёсць шмат іншых, зробленых у XIX ст. Усе яны - у строях св. Казіміра, наяўнасці распяцця і лілей, працягваюць папярэднюю традыцыю.

Вельмі прыгожы абраз св. Казіміра з часоў Станіслава Аўгуста, знаходзіцца ў бакавым алтары гарадзенскага па-бернардынскага касцёла.

У сувязі з кірмашом, які адбываецца на св. Казіміра, трэба пашкадаваць, што ў продажы няма па-мастацку выкананых абразоў гэтага святога. Часцей за ўсё сустракаюцца няякасныя алеяпрынты замежнага паходжання. Некалькі гадоў таму з'явілася ярка размаляваная гіпсавая фігурка святога памерам у 10 см, цікавая сваім барочным выглядам з-за перабольшанай мітры. Гэтая дэталь надавала асаблівую пампезнасць усёй фігуры святога.

*Jerzy Hoppen. Wizerunki sw. Kazimierza // Slowo. 1939. № 63.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***





*Ежы Хопен*

# Касцёл у Старым Мядзеле і яго фундатар

Возера Мястра ад возера Нарач раздзяляе вельмі вузкі пярэсмык зямлі і разам яны амаль што ствараюць агульную водную паверхню. Блізкае да іх, трэцяе возера Мядзел, ляжыць праз некалькі кіламетраў на ўсход. Пасярэдзіне гэтага ансамбля з трох азёр, над самым берагам Мястра, знаходзіцца два мястэчкі: Новы Мядзел і Стары Мядзел, адлегласць паміж якімі каля 1 кіламетра. У кожным з гэтых мястэчак ёсць свой касцёл, прычым больш старэйшы ў Новым, а больш новы ў Старым Мядзеле. Першы быў закладзены ў XV а другі ў XVIII ст. У гэтым артыкуле я раскажу пра больш новы касцёл у Старым Мядзеле.

Гэтая дзіўная супярэчнасць назваў узнікла з-за таго, што першапачатковы Мядзел (які ўласна і быў Мядзелам) знаходзіўся на востраве на аднайменным возеры. Гэта быў замак, і тэрыторыя, прылеглая да возера, была яго маёмасцю. Замак быў разбураны у XVII ст., і з таго часу востраў захаваў назву "Замак", а Стары і Новы Мядзел над востравам Мястра былі толькі напамінам пра першапачатковую сядзібу на востраве.

Стары Мядзел першапачаткова быў толькі алтарыяй касцёла св. Станіслава ў Новым Мядзеле, фундаванага Андрэям Саковічам, полацкім старастам, у 1459 г. Пасля двух пажараў, апошні касцёл быў тут пабудаваны ў 1852 г. Ён не уяўляе сабой нічога годнага ўвагі, акрамя цікавых каплічак на могілках, выразаных мясцовым разьбяром з дрэва.

Двор у Старым Мядзеле раней з'яўляўся сядзібай некалькіх радоў, у 1687 г. ён перайшоў у рукі віцебскага земскага пісара Міхала Кошчыца. Каля 1736 г. Кошыцы заснавалі ў Старым Мядзеле мястэчка і атрымалі ад караля Аўгуста III прывілей для яго. У 1754 г. зарэцкі староста Антон Кошыц, сын Станіслава, вымураваў тут касцёл і фундаваў кляштар Босых Кармелітаў.

Квадратны ў плане касцёл цэнтральнай планіроўкі, унутры васьміграннЫ, меў некалькі алтароў. Звонку ён мае чатыры калоны, высокі купал, упрыгожаны вежкай-ліхтаром і іншымі архітэктурнымі ўпрыгожаннямі, такім як кованыя балконы і г. д. Касцёл стаіць на ўзгорку, акружаны дрэвамі. Побач маецца сціплая мураваная званіца. Вакол яго маюцца некалькі зруйнаваных каплічак і ў непасрэднай блізкасці стаіць большы двухпавярховы будынак, магчыма, гэта рэшткі былога кляштара. Касцёл робіць моцнае ўражанне, архітэктура падобнага кшталту рэдка сустракаецца ў нашым краі.

Гісторыя старамядзельскага касцёла звязана з легендай, якую расказваюць мясцовыя жыхары. У гістарычнай літаратуры XIX ст. няма звестак пра гэтую легенду, магчыма, яна была невядомая розным аўтарам, ці яны скептычна ставіліся да народных паданняў. А паколькі легенда цікавая і пацвярджаецца фактамі, лічым мэтазгодным прывесці яе ў гэтым артыкуле.

Справа ў тым, што Антоній Кошыц, маючы вялікія мядзельскія маёнткі і звязаныя з імі наданні, быў у гэтым краі магутным гаспадаром, ён меў двор недалёка ад пабудаванага ім касцёла. Аднойчы ў яго сям'і здарылася няшчасце. Мясцовая сялянка, якая павінна была даглядаць яго сына, падчас сну ненаўмысна так моцна прыціснула малога, што задушыла яго да смерці. Даведаўшыся пра страту сына, ашалелы ад болю Кошчыц загадаў забіць няшчасную жанчыну, Аднак, праз некаторы час у ім прачнулася сумленне, і ён пачаў шукаць выйсця з пакутлівай сітуацыі.

Паслухаўшы свайго спаведніка, Антоній Кошыц адправіўся пешшу ў Рым, каб там шукаць адпушчэння і пакаяння. Дайшоўшы да рымскага папы, ён атрымаў духоўнае суцяшэнне і абяцаў як wotum пабудаваць у Мядзеле касцёл. Усцешаны Кошыц вяртаецца ў свой двор пад Мядзелем і выконвае свае абяцанне - фундуе касцёл пад вызнаннем Маці Божай Шкаплернай, пры касцёле закладае кляштар для Босых Кармелітаў.

У Рыме ён атрымаў мошчы св. Юстына і гэтую святую рэліквію прывёз у свой касцёл. Ксяндзы-кармеліты таксама прывезлі сюды каштоўныя і рэдкія рэліквіі - кавалачак дрэва св. Крыжа і ампулку з Найсвяцейшай крывёй. Манахі заснавалі тут кальварыю з 21 мураванай капліцай і 8 драўлянымі брамамі. Пры кляштары працавала школа і бібліятэка з 500 кніг.

Кармеліты працавалі добра, рэлігійны рух развіваўся, і Мядзел стаў цэнтрам рэлігійнага жыцця ў сваім наваколлі. Да гэтага часу захаваліся сляды іх дзейнасці ў выглядзе выяваў (гравюр на медзі) святых, на адной з якіх намаляваны св. Юстын на фоне Старога Мядзела - бачны касцёл з купалам і возера Мястра з чаўнамі, на іншых намаляваны слынныя пацыфікалы (літургічная рэч у каталіцкім касцёле, мае выгляд простакутнай ці авальнай таблічкі з ножкай, якую даюць вернікам для пацалунку -



*Стары Мядзел, 1930 г.*





*Л. Л.*).

Закончыўшы свае справы, Антоній Кошыц памёр 9 сакавіка 1795 г. у Мядзеле і спачыў у касцельнай крыпце, дзе яго парэшткі з муміфікаваным стане захоўваюцца да нашага часу.

Царква і кляштар праіснавалі да 1863 г. пасля чаго былі перададзены ў рукі праваслаўнага духавенства, прычым, кляштар разабраны на цэглу і прададзены як будаўнічы матэрыял. Кармеліты раз'ехаліся па свеце, частку касцельных рэчаў яны забралі з сабой, а частку раздалі мясцовым парафіянам. Мошчы св. Юстына патрапілі ў касцёл у Мосыры, дзе і сёння вернікам прадаюцца фігуркі гэтага святога.

Пасля 1920 г. касцёл вярнуўся рыма-католікам, і зараз у ім служаць Босыя Кармеліты. Пазбаўлены сваіх першапачатковых аздоб, ён, відочна, стаў больш сціплым, чым раней, але нікуды не падзелася яго цудоўная архітэктура. З ранейшых помнікаў захавалася надмагілле 1804 г. шамбеляна Мацея Котвіча з сентыментальным вершам і вялікі, выразаны з дрэва, крыжыфікс (укрыжаванне - *Л.Л.*), які з'яўляецца копіяй ці рэплікай вядомага па-трынітарскага крыжа, што знаходзіцца ў віленскай катэдры. Такі ж крыж ёсць і ў Лучайскім касцёле.

Яшчэ нядаўна на скляпеннях касцёла можна было з-пад пабелкі заўважыць арыгінальныя роспісы з выявамі святых кармелітаў.

Каплічкі на старой кальварыі ў сваёй большасці разбурыліся і толькі некаторыя з іх былі кепска адрэстаўраваны правінцыяльным мулярам, які ператварыў прыгожыя архітэктурныя формы ў нейкія несамавітыя дзівацтвы.

Так славуты некалі Стары Мядзел ператварыўся сёння ў правінцыйны горад з несувымерна дасканалым касцёлам, які кажа пра яго былую славу. Але трэба яшчэ прыкласці шмат намаганняў, каб аднавіць былую прыгажосць гэтага касцёла і выявіць яго былое харакство.

Хада часу і гісторыі знішчыла твор, створаны магутнай індывідуальнасцю зарачанскага старасты Антонія Кошыца. Гэта была асоба, тыповая для сярэдзіны XVIII ст., з надзвычайным дыяпазонам характару - ад забойства да пакутлівай перагрынацыі, ад разбурэння да будаўніцтва сапраўднага твора мастацтва і бастыёна веры, ад свавольства да заснавання мястэчка і клопатаў пра яго развіццё.

Гістарычныя дакументы, хаця і часткова, але пацвярджаюць набожнасць Антонія Кошыца з народнага падання, яны ж выяўляюць іншыя, менш станоўчыя яго рысы. Гэтак аднойчы Кошыц наехаў на замак, які знаходзіўся ў Новым Мядзеле (таксама на востраве) і зрабіў гэта падчас нейкага фэсту, які там адбываўся. Новамядзельскі староста быў прымушаны уцякаць праз акно. Зрабіў Кошыц гэта з-за помсты за свае сеткі, арыштаваныя на возеры Мястра, дзе ён не меў права лавіць рыбу.

Мястэчка Стары Мядзел, пра развіццё якога ён гэтак клапаціўся, патрэбна было яму таксама і, каб пацешыць свае амбіцыі - ён канкурыраваў з каралеўскім



***Касцёл Маці Божай Шкаплернай***

мястэчкам Новы Мядзел. Хто ведае, можа ён пабудаваў касцёл, кляштар і кальварыю, каб узняць перад суседзямі сваю годнасць і значэнне.

Ловячы рубы на бліжэйшых азёрах, ён часта сутыкаўся ці з тагачаснымі уладамі, ці з татарамі з вёскі Гіруны што над Нараччу. Гэта былі так званыя панцырныя баяры, якія за права рыбалоўства ў водах маёнтка Ясева, неслі ўзброеную ахову на азёрах Нарач і Мястра, мелі неабходнае ўзбраенне і былі шляхтай.

Вяртаючыся да справы пабудовы Кошыцам касцёла, адзначым для сябе, што, насуперак існуым гістарычным звесткам, якія датуюць будаўніцтва касцёла 1754 г., касцёл мог быць пабудаваны значна раней, прынамсі каля 1670 г. мы сцвярджаем гэта на падставе стылістычнага аналізу і фактаў, якія пацвярджаюць роднасць гэтага касцёла з Бердычаўскім, які таксама належаў Босым Кармелітам ажно да яго перабудовы ў XVIII ст.

Гэты надзвычай цікавы куток у ваколіцах Нарачы і прылеглых азёраў мае багатую мінуўшчыну. Гісторыю заканадаўства, якое рэгулявала промысел на гэтых азёрах, зараз распрацоўвае Аляксандр Будрыс-Будрэвіч, якому мы абавязаны ўдасканальваннем нашых звестак з гісторыі Старога Мядзела.

*Jerzy Hoppen. Staromadziolski kosciol i jego fundator // Slowo. 1938. № 320.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Твары братоў і сясцёр, адлюстраваныя на фота: Глябовіч, Раўчанка, Цітавец, Дар'я; кінаіндзейцы (ч. 1)*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) за 2023 г.)*

Звесткамі пра першыя фільмы пра індзейцаў і раннюю Амерыку, якія паказваліся ў Беларусі, мы абавязаны аўтару артыкула 1986 г. В. Смалю, які да 1985 г. быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.



Dear alex,
Hope you have enjoyed the card I have sent recently! Have mailed all the letters out! One letter, however, had a very familiar name: John Boatman, Too many years have passed. I think he was a Native american advisor at one time; but my memory fails me, for if he was at Nicolet College or University of Wisconsin-Oshkosh. I'm enclosing an old photo of me at work. In this picture I am directing a show and also working the Switcher. I also have 7 years of Television work on a Senior Citizens Show! I'll be mailing a letter soon. I bought a new computer System and have it up and running!
Happy Holidays
Alvin J Bobidosh

С Новым Годом!

Alvin J Bobidosh

P.S. There will be a showing of Lac du Flambeau art Exhibits in Denmark before Dec 15th. I'll find a flyer and pass it on.

***Lac du Flambeau Chippewa Alvin Bobidosh postcard Merry Christmas (Hallmark Cards, Inc.) 1993***




***Bobidosh postcard Merry Christmas postmark Lac du Flambeau 1993-12-08 received 1993-12-28***

1900 г. у шматлікіх інтэрнэт-крыніцах гучыць як дата з'яўлення кіно ў Менску. Мы ж выпісалі для манаграфіі звесткі Смаля, што ў канцы 1907 г. кінематограф, які тады быў больш вядомы як "электрабіёграф", "атрымаў у Менску пастаянную прапіску". "Минское слово" паведаміла аб адкрыцці "тэатра электрабіёграфа" Рыхарда Штрэмера. Кінатэатр займаў другі паверх будынка на рагу Губернатарскай і Захар'еўскай вуліц (ГУМ, "Макдональдс"?).

*"Для свайго часу Р. Штрэмер быў адным з буйных кінапрадпрымальнікаў, які шырока прапагандаваў сенсацыйную навінку. Ён пабудаваў кінатэатры ў Менску, Кіеве, Адэсе, Харкаве, Екацярынаславе, Растове і іншых гарадах, займаўся пракатам карцін.*

*Зусім натуральна, што асноўнай задачай Р. Штрэмера было атрымаць прыбытак, прыцягваючы ў свае кінатэатры як мага больш гледачоў. Аб змесце рэпертуару можна меркаваць па назвах першых карцін, якія дэманстраваліся ў тэатры-"электрабіёграфе": "Авантурысты", "Каўбоі і чырванаскурыя", "Абрабаванне банка ў Нью-Ёрку", "Апошні дзень халасцяка", "Каханне сышчыка Ната Пінкертона", "Шэрлак Холмс", "Граф Монтэ-Крыста", "Цешча пабіла рэкорд", "Жалезная маска", "Дурашкін плаціць даўгі", "Дурашкін жэніцца" і іншыя".*

Смаль адзначаў, што, нягледзячы на *"сенсацыйнасць"*, *"нельга недаацэньваць і асветніцкую дзейнасць Р. Штрэмера"* - шмат карцін з яго рэпертуару былі *"відавымі"* (напрыклад, "Бразільскія вадаспады"), навукова-папулярнымі.

Ураджэнец Віцебскай губерні, рэвалюцыянер і будучы савецкі рэжысёр і сцэнарыст Л. Мурашка (Леа Мур) пазнаёміўся з працэсам вытворчасці вестэрнаў непасрэдна, працуючы пэўны час у кінафірмах Галівуда, у т. л. у атэльe Д.У. Грыфіта, акцёрам, адміністратарам і асістэнтам рэжысёра. Пазней ён, напрыклад, апісаў *"асноўны трафарэт"* вестэрна на прыкладзе *"першай карціны з быту індзейцаў і каўбояў"* - "Сквo", знятай за год да яго з'яўлення ў Каліфорніі С. Дэ Мілем (1911).

З Беларусі паходзіў адзін з найбуйнейшых амерыканскіх дзеячаў кіно - заснавальнікаў Галівуда - Л. Б. Маер, імя якога захоўваецца ў назве кампаніі "Метра-Голдвін-Маер". Ён таксама ведаў не толькі акцёраў, якія выконвалі ролі індзейцаў, але і саміх індзейцаў - і не толькі акцёраў з масоўкі.

БИО – Копыловой А.И., Москва
8.II.1991 №195 Гомель

Уважаемая Александра Ивановна !

Спасибо Вам за теплое письмо, заинтересованность и добрые пожелания. Это очень важно для нас.

К сожалению, Ваше первое письмо нам, отправленное с бандеролью, не отыскалось. Поэтому мы будем очень рады, если воспроизведете вновь его содержание. Пожалуйста, если это Вас не затруднит.

Мое письмо в "Зорьку", хотя и не моими словами в значительной его части, – не первое, в котором излагается эта идея. В частности, я писал кинокритику Ольге Нечай. Ответа не было, и я как-то отодвинул дело пропаганды экранизации "Сына воды" на более позднее время. В период перестройки (или как это теперь называется?) трудно надеяться на некоммерческие начинания. Впрочем, фильм по "Сыну воды" мог бы быть очень дешевым (мало действующих лиц, простой реквизит, съемки без декораций, на природе – единственная сложность, что на море со скалами и большим пароходом, т.к. самое крупное белорусское озеро для этого не подойдет – и частично в городе (Лондон). Сюжет просто замечательный ! Поверьте, я просто прихожу в восторг от того, что может получиться. Необыкновенная, романтичная, печальная история, достойная пера любого из лучших писателей Европы и мира. (То, что ее перевели, вероятно, только в Чехословакии и ГДР, – лишь недоразумение, и мы уже намекали книгоиздателям Кубы, что в дополнение к испанскому переводу "Полесских робинзонов" следовало бы издать и "Сына воды").

Не можем похвастаться знакомством с режиссерами и сценаристами, а именно их внимание должно быть привлечено (не знаю, насколько эффективной была информация в "Зорьке"). Я думаю, необходимо написать руководству киностудии "Беларусьфильм", коротко представить идею, спросить, к кому можно обратиться за ее реализацией (наиболее перспективные сценаристы и режиссеры). Не могла не обратить внимание работа Леонида Нечаева "Питер Пэн" (этот фильм не один раз демонстрировался по ЦТ. Вы могли его видеть). Я даже связывался с режиссером по поводу его (от письменного ответа он отказался, предлагал приехать на киностудию). Это было несколько лет назад. Не знаю, какое настроение теперь у Нечаева, но он "детский" постановщик и работал "на море".

Не могли бы Вы написать на "Беларусьфильм"? Мы тоже это сделаем, но позже, после их реакции на Ваше обращение (если возможно, пришлите нам копию Вашего письма и ответа – для координации). Адрес: 220023 Минск, Ленинский пр., 98, киностудия "Беларусьфильм" (из справочника 1981 г.). Совместными усилиями – чего-нибудь добъемся

***Letter to Aleksandra Kopylova (Копылова), Moscow 1991-11-08***

і жадання - наша цікавасць да індзейскіх фільмаў яшчэ падтрымлівалася недзе да 1987 г., але потым "мы" "выраслі" з вестэрнаў і ўвогуле з мастацкага кіно, як вырастаюць з зусім дзіцячага; іншыя ж "мы" - так і засталіся ў "ювенальным" стане, будучы здольнымі глядзець фільм ад пачатку да канца без аніводнай трывожнай пабочнай думкі пра план далейшых дзеянняў і пра калекцыі (у т.л. плакатаў, у т.л. кінаафіш), "якія гінуць"):

(у храналогіі можа быць "варыябельнасць" гадоў: калі створаны, калі упершыню паказаны (прэм'ера), калі паказаны ў СССР (або дубляж) або калі пра яго пісалі ў Беларусі - можа блытацца): 1939: Падарожжа будзе небяспечным; 1946: Белы Ікол (СССР); 1966: Гордыя сыны Тараўмары; 1967: Сыны Вялікай Мядзведзіцы; 1968: Верная Рука - сябар індзейцаў; 1969: Вінету - правадыр апачаў, Золата Макены; 1970: Белыя ваўкі, След Сокала, Смерць індзейца Джо; 1971: Смяротная памылка; 1972: Прыгоды на берагах Антарыа, Прэрыя; 1973: Ацэола, Коннік без галавы, Памылка шэрыфа, Тэкумсэ; 1974: Апачы, Кліч продкаў, Залаты пояс (Мексіка); 1975: Белы Ікол (ЗША), Вінету - сын Інчу-Чуна; 1976: Вяртанне Белага Ікла, Ульзана; 1977: Браты па крыві; 1978: Пралік лейтэнанта Слэйда; 1980: Сярод каршуноў; 1981: Саюз племені іракезаў; 1982: Трансільванцы на Дзікім Захадзе; 1983: У 3.10 на Юму; у 1984 г. і пазней - Актрыса і трансільванцы, Выбраннік Вялікага духу, Доўгі шлях (вярхом) у школу, Легенда аб дзікай прыродзе, Правадыр Белае Пяро…

Тут мы практычна не пералічваем фільмы пра Лацінскую Амерыку - на поўдзень ад Сьера-Тараўмара. Напрыклад, у савецкім пракаце быў фільм мексіканскага рэжысёра Серхіа Альховіча "Дождж ідзе", *"дзе індзейская тэма цесна сплятаецца з раскрыццём псіхалогіі дробнага буржуа Мексікі"*. Маці бацькі Серхіа паходзіла з Марыупаля, але яго дзед з боку бацькі быў з Разані (таму пытанне "ўкраінец або беларус?" не закрытае).

Фільмы "індзейскай серыі" (у вузкім - "ДЭФА" - і шырокім сэнсе) дастаткова шырока рэкламаваліся ў часопісе "На экранах Беларусі" і ў адпаведных рубрыках беларускіх цэнтральных і мясцовых газет, а таксама ў спецыяльных аглядах на тэлебачанні.

Мы сабралі звесткі пра фільмы больш позняй эпохі, карыстаючыся і вялікай калекцыяй газет 2000 - пачатку 2003 г. - кінаагляды Алега Паўлава ў газеце "Туризм и отдых" і падобныя раздзелы і рубрыкі ў іншых выданнях. Вядома, што ў бібліятэках і ў "міру" іх доўга не трымаюць - не цэняць калекцыйны характар, разглядаючы "макулатурай", тых выданняў, якія потым можна будзе знайсці (прычым не заўсёды, не ўсе нумары) толькі ў НББ, пры горшым выніку - у архівах і выпадкова ў нейкіх цудам захаваных папках, у куфрах, на даху і ў іншых "патаемных" месцах.

У беларускіх публікацыях аддадзенае належнае лепшым творам пра індзейцаў і дзеячам кіно, якія былі звязаныя з імі праз творчасць, грамадскую дзейнасць і асабістыя кантакты: Д. Рыд, М. Бранда, Джон Форд, Генры і Джэйн Фонда…

У беларускім друку з падставай або без яе да акцёраў і іншых дзеячаў кіно індзейскага паходжання адносілі такіх творцаў, як М. Мэдсен, К. Таранціна, Дж. Дэп, К. Костнер, Ч. Нορыс, К. Бесінджэр (Бэйсінгер).

Пра вестэрн і праблемы, якія ўзнікаюць у сувязі з "Дзікім Захадам" на нашых экранах, пісала ў шэрагу кніг кіназнаўца В. Нячай - "беларуская Карцава" (А. М. Карцава вядома сваім даследаваннем "Вестэрн. Эвалюцыя жанру", 1976) - яна аналізавала замежнае кіно і яго ўздзеянне на беларускага гледача. Высновы, якія яна робіць: *"Грамадзянская пазіцыя кінематаграфістаў ЗША праяўляецца і ў іх адносінах да расавай праблемы, productions становішча індзейцаў і неграў"*. "Разабрала" яна і фільм "Індыяна Джонс і храм пагібелі" (рэжысёр С. Спілберг, 1984).

У рубрыцы "Відэафан" часопіса "Мастацтва Беларусі" вестэрн прадставіў У. Самусенка (1992): асобныя падтыпы, асобныя найбольш характэрныя фільмы.

Цікавыя разважанні пра прыгодніцкія стужкі ў жанры вестэрна (уключаючы савецкія) у артыкуле "Рамантыка вестэрна". Аўтар гэтай "гутаркі" ва "Універсітэце кінагледача" на старонках часопіса "На экранах Беларусі" здзіўляе чытачоў-кінагледачоў "адкрыццём",

Society for Cinema Studies
c/o Janice R. Welsch, Secretary-Treasurer
Department of English and Journalism
Western Illinois University
Macomb, IL 61455

October 18, 1992
Gomel

Dear Friends:

We have a lot of questions relating to Byelorussian-American contacts in the field of film production, but don't know how we can start cooperation with American colleagues.

This letter is the first attempt. What can you recommend us to study the biographies of some early Hollywood "Byelorussian-American" film makers, such as Samuel Goldwin, born in Minsk, and Leo Moore (Mur (Murashko)), born in the Vitebsk province. I am writing a monograph on Byelorussian-American Indian relations and keenly interested in their involvement in western.

We hope to know more about your Society and other organizations for cinema research

Thank you very much.

Sincerely yours,

(Mr) Ales Simakou
Byelorussian-American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to (c/o Janice R. Welsch, Secretary-Treasurer) Society for Cinema Studies (Department of English and Journalism, Western Illinois University, Macomb, IL 1992-10-18 ("Goldwin" (Goldwyn) was born in Warsaw, not Minsk or Kiev)***

што і ў СССР знята некалькі вестэрнаў - наколькі яны "істэрны" ў цяперашнім разуменні тэрміна - пытанне асобнае.

"Першы савецкі вестэрн" зняты ў 1969 г. на "Масфільме" рэжысёрам У. Матылём (нарадзіўся ў Лепелі). Гэта знакамітае "Белае сонца пустыні". Некалькі "вестэрнаў" зрабілі кінематаграфісты сярэднеазіяцкіх рэспублік, а першы беларускі ўклад у гэты жанр (сумесна з "Масфільмам") - "Пагаворым, брат..." пра барацьбу падпольшчыкаў і партызан у час грамадзянскай вайны на Далёкім Усходзе. (Пры праглядзе некаторых ранніх беларускіх стужак, напрыклад, адной з першых - "Салавей", ад асобных сцэн застаюцца "вестэрнаўскія" ўражанні.) У канцы гутаркі канстатуецца: *"Галоўнае адрозненне гэтых карцін, карцін савецкага прыгодніцкага вострасюжэтнага кінематографа ад галівудскіх або эпігонскіх італьянскіх камерцыйных каўбойскіх стужак заключаецца ў тым, што нашы фільмы заклікаюць не проста забаўляюць гледача, а ў захапляючай форме расказваюць яму пра сапраўдныя гераічныя падзеі. Адсюль праўдзівая гістарычнасць і народнасць савецкіх фільмаў-вестэрнаў, адсюль іх поспех у нават вельмі патрабавальных гледачоў".*

Спіс рэжысёраў Расіі з беларускімі каранямі, якія інтэгравалі індзейцаў у свае работы, мы адкрываем (практычна і закрываем) Віктарам Эйсымонтам (ураджэнец Гародні) - у яго "веселом и добром русском фильме" - "Дружок" (1958) - прастадушнае, але натуральнае з'яўленне "індзейцаў" - як ва ўсіх у дзяцінстве (фільм зняты па апавяданнях "Мішкіна каша" і "Дружок" М. Носава, аўтара "Нязнайкі").

Той факт, што індзейцы сталі "дзіцячымі", а часам, як у "Пітэры Пэне", і казачнымі персанажамі, побач з Нязнайкам, несумненна, гаворыць пра вялікую прыцягальнасць іх свету.

Акцёры з беларускімі каранямі ў савецкіх фільмах: Мікалай Чаркасаў і Мікалай Яроменка - у фільмах па творах Ж. Верна; Ігар Ясуловіч (1941-2023) - у фільме 1983 г. " Віця Глушакоў - сябар апачаў" ён - бацька Віці (таксама мы знайшлі ў пераліку яго роляў Дармаедава ў "Бледнатварым ілгуне" (2001); хто высветліць, чаму хлус - "бледнатвары"?)

Адным з першых уласна беларускіх акцёраў (хаця ён і не беларус, не ўраджэнец Беларусі і праціўнік "майя" ў якасці беларусаў), што зняліся ў "вестэрнах", быў Уладзімір Гасцюхін. Сямісерыйны фільм "У пошуках капітана Гранта" (1985) С. Гаварухіна паводле рамана Жуля Верна "Дзеці капітана Гранта" нельга лічыць удалым асвятленнем індзейскай тэмы.

3-я серыя - "Талькаў", калі браць яе асобна, уяўляе сабой тыповую "поделку" пра Дзікі Захад. У ёй усё было б "добра", калі б сцэнарыст, пастаноўшчык і яго каманда не палічылі магчымым перанесці ў Паўднёвую Амерыку не толькі авантурыстаў-"грынга", але і цэлае племя "паючы", носьбітаў рыс маскультурных індзейцаў на поўнач ад Рыа-Грандэ. Экспедыцыю па 37 паралелі ўзначальвае лорд Гленарван, якога іграе Мікалай Яроменка, сын беларускага акцёра М. М. Яроменкі, ураджэнец Віцебска.

Савецкімі папярэднікамі і сучаснікамі Гасцюхіна, Яроменкі і іншых у амплуа ўдзельнікаў прыгод сярод індзейцаў былі Бруна Оя і Алег Барысаў (першы выканаў ролю шэрыфа ў фільме кінастудыі "ДЭФА" "Смяротная памылка" (1969, прэм'ера 1970), другі іграў галоўнага героя ў фільме "Аткінс" (1985) той жа кінастудыі). У "Смяротнай памылцы" ролю гандляра выконваў нямецкі акцёр, але ўраджэнец Палтаўскай губерні Н. Тураф (Turoff).

Беларускія фільмы, з карцінкі або агучвання якіх можна ўзяць штосьці індзейскае, будуць пералічаная ў наступнай частцы нашага кінаагляду.

**Літ.:**

*5328 "Смертельная ошибка"; Гойко Митич // На экранах Беларусі. 1971. № 9.*

*1943 7 дней экрана / раздел ведет ред. по рекламе Миноблгоркинопроката Ю. Овчаренко // Знамя юности. 1988. 19 янв. (Новые фильмы: "В дебрях, где реки бегут...".)*

*1068 Відэафан / дзяжурны па рубрыцы У. Самусенка // Мастацтва Беларусі. 1992. № 8. С. 12-13.*

*2977 Грыгор'еў В. Зноў у гасцях - Дзяржфільмфонд СССР // Гомельская праўда. 1989. 28*





*студз.*

*5483 Домашний экран ("Ульзана") // Белорусская нива. 1998. 4 сн.*

*6691 Жбанков М., Федорченко А. Иван-дурак и дикие индейцы: у каждого поколения - своя война? // Белорусская газета. 2002. 20 мая. С. 16.*

*1350 Игнатьев И. Фальшивка расистов из Голливуда // Знамя юности. 1981. 17 марта.*

*5061 Кінаафіша ("Калумб. Заваяванне раю") // Чырвоная змена. 1997. 21 кастр. С. 4.*

*2665 Ковалевский Н. Голливуд обнажает оружие // Знамя юности. 1994. 25 марта.*

*1492 Крупеня Я. Бунтоўнае кінамастацтва // Маладосць. 1974. № 2. С. 139-150.*

*3330 Крутые парни и девчонки-людоедки ("Женщины-пираньи в джунглях Авокадо") // Знамя юности. 1996. 23 июля.*

*12631 Мур Л. Алло!... Говорит Америка: диалоги под радиорупорами // Смена. 1931. № 17 (июнь). С. 22-23.* ("Африканские негры были обращены в рабство, а подлинные хозяева страны - американские индейцы - были просто уничтожены - начисто стерты с лица земли великодержавной гегемонией "дяди Сама". Публіцыстычнае перабольшванне, але хто не даруе за гэта?)

*4910 Михалкович В. Бесстрашный индеец Ульзана // Советский экран. 1977. № 11. С. 15-16. (Маскоўскі аўтар - родам з Беларусі.)*

*4911 Михалкович В. Виннету и его друзья // Советский экран. 1981. № 17 (сент.). С. 17.*

*8347 Михалкович В. И. О сущности телевидения. М., 1998.*

*8348 Михалкович В. Текумзе // 50 фильмов киностудии ДЕФА / сост. Г. Херлингауз. М., 1976.*

*5814 Михалкович В. Язык кино // Вайсфельд И. В., Демин В. П., Михалкович В. И. Встречи с X музой: беседы о киноискусстве. Кн. II. М., 1981. С. 79-132.*

*7052 Мокасины Маниту ("Видеоальянс" представляет) // Видеоточка. 2002. 10 окт. (У "Мака-сінах Маніту" - музыка беларуса В. Смольскага.)*

*2767 Нечай О. Ф. Блеск и нищета "массовой культуры". Мн., 1984.*

*2768 Нечай О. Ф. О вкусах не спорят: зарубежные фильмы на наших экранах. Мн., 1986*

*2769 Нечай О. Ф. Экран обличает: прогрессивное зарубежное кино. Мн., 1987.*

*6803 Павлов О. TV-шпаргалка от Олега Павлова № 28 (244) с 28 по 28 июля 2002 года / / Туризм и отдых. 2002. 18 июля. С. 19-22. ("Громовое сердце" [Сердце], Thunderheart, 1992; мы "перажывалі", што ў фільме агент ФБР (у выкананні Вэла Кілмера) - індзейска-літоўскі метыс (прынамсі ў рускім дубляжы), а не індзейска-беларускі.)*

*1738 Павлючик Л. Под солнцем Сатаны / / Правда. 1991. 11 марта.*

*2906 Рабцаў Г. Чаму мой сын не ходзіць у кіно // Бярозка. 1994. № 8. С. 26-29.*

*3143 Раманоўскі К. Прэм'еры кіно: Палаючы кантынент // Звязда. 1973. 15 крас.*

*5334 Рамантыка вестэрна // На экранах Беларусі. 1982. № 1. С. [12-13].*

*5332 Ричард Харрис. "Человек по имени Лошадь" // На экранах Беларусі. 1970. № 10.*

*6224 Смаль В. Живые фотографии в Минске / фото из личного архива В. И. Коледы // Неман. 1986. № 7. С. 172-174.*

*3383 Теленеделя: "Навахо блюз" // Советская Белоруссия. 1997. 20 сент.*

*6073 У Виннету есть повод выпить "огненной воды" // 7 дней. 2001. 21 июля. С. 4.*

*3453 Фальковска Я. Скромное обаяние канадского кино / беседовал Ю. Стулов, профессор // Вечерний Минск. 1997. 21 апр.*

*3347 Фаткулина Д. Великолепная четверка // ТелеГраф. 1997. 20-26 июня. С. 21.*

*2086 Фільмы тыдня: "Следапыт" / на здымку: кадр з фільма "Следапыт" // Звязда. 1988. 25 чэрв.*

*2833 Хачырашвілі У. Жорсткасць на продаж // Маладосць. 1987. № 3. С. 149-150.*

*2234 Чалавек з бульвара Капуцынаў. Человек с бульвара Капуцинов // На экранах Беларусі. 1987. № 12. С. 11.*

**ГЛЯБОВІЧ Барташ** - мы не ўпэўненыя, што "Глябовіч = беларускія карані", але і ад Барташа, і ад яго бацькі мы атрымалі пацвярджэнні паходжання роду з другога боку былой мяжы паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім (у прыватнасці, знаходзім вядомых Глябовічаў - ураджэнцаў Гародні; калі магнаты Глябовічы не прадоўжылі свой род, то, тым не менш, маем арыста-



Portraits of Native Americans
Edward S. Curtis (American, 1868–1952)
Alchise—Apache

Ales, I thought I'd send you also most recent issue of TAWACIN. There is a gallery of photos I took during short trip to the capitol of the Cherokees – Tahlequah in Oklahoma. I hope we will work out some article about or by Belarussian Indianist for Tawacin.
Best,
Bartek

Oct 2005

Pomegranate Box 6099 Rohnert Park CA 94927

Prints and Photographs Division, Library of Congress
© Library of Congress

***Postcard from Bartosz Hlebowicz, dated Oct. 2005, postmark Bialystok 2005-10-18 received 2005-10-20***








**B. Hlebowicz postcard 2005 Oct. Alchise (Apache), photo by E. Curtis**



PISMO PRZYJACIÓŁ INDIAN
TAWACIN
ul. Łąkowa 3 ▪ 64-050 Wielichowo
tel. (061) 44 33 058
tawacin@tipi.pl ▪ www.tipi.pl

Hallo Ales,

I am sending the new issue of Tawacin at the request of Bartek Hlebowicz

Kind regards

Marek Maciolek
editor-in-chief

***From Marek Maciolek, Editor-in-Chief, Tawacin, s.d. postmark Wielichowo 2006-07-14, received 2006-07-20***



***Oklahoma photo we received in 1990 from Arthur Landin (Kiowa)***

кратаў - але духу, такіх як ксёндз родам з Гародні Генрык Глябовіч, якога расстраляла гестапа ў Барысаве ў 1941 г., і Брунан Глябовіч - настаўнік, харцар, абаронец Гародні ў час ДСВ).

Маці Барташа ў час нашай сустрэчы ў іх беластоцкай кватэры засведчыла праваслаўныя карані па яе лініі, прычым праваслаўныя з Фінляндыі - і тады мы зразумелі, чаму ў сувязі з Барташам нярэдка гучыць і фінскі матыў, імёны фінскіх калег і знаёмых. Між іншым, гэтая "фінская" акалічнасць паглыбляе і прычыны, па якіх Барташ з калегамі стварыў кнігу "Nowa Wola po prostu", якая прысвечаная "фатаграфічнаму дыялогу" або "мосту" паміж польскімі праваслаўнымі і канадскімі індзейскімі дзецьмі.

Сведчаннем таго, што ён сустракаўся з індзейцамі як ва ўсходняй, так і заходняй частках Паўночнай Амерыкі, служыць серыя яго фота з кароткага візіту ў Талекуа, "сталіцу чэрокі" ў Аклахоме, які ён згадвае ў сваёй паштоўцы, - фотасправаздача змешчаная ў індзеяністкім часопісе "Тавачын" (Tawacin, № 3 [71], jesien 2005).

Мы атрымалі па пошце, пры яго пасрэдніцтве, а таксама асабіста ў час нашай сустрэчы ў Беластоку шмат нумароў часопіса "Тавачын", уключаючы і нумар, у якім "галерэя" з Талекуа.

Зрэшты, Барташ шмат піша пра многае як у рамках індзейскай тэмы, так і розных іншых - мала палякаў, якія могуць чытаць, не чулі пра аўтара і перакладчыка Bartosza Hlebowicza. З 2017 г. ён карэспандэнт "Газеты выборчай" у Італіі.

Калі мы ў нашай серыі БСІ эксперыментальна ўключылі некалькі асоб без даказаных прывязак непасрэдна да сучаснай тэрыторыі Беларусі або "працэнта крыві", чаму мы не можам зрабіць так у яўна больш "цёплым" выпадку з Барташам?

**Літ.:**

*9232 Johnsen J. H. Odeidowie - pierwsi sojusznicy Ameryki / tlum. B. Hlebowicz, M. Maciolek // Tawacin 2000. № 4. S. 16-21. (Kosciuszko.)*

*8122 Hlebowicz B. Polska kolonia w Nowym Swiecie // Tawacin. 2006. № 2 [74] (lato). S. 50-51.*

*8253 Hlebowicz B. Nowa Wola: wszystko takie ciekawe // Tawacin. 2007. № 3 (jesien). S. 31.*

*8254 Hlebowicz B. To, co sprawia, ze wyciagasz ramiona: (Most nad oceanem. Bridging the Distance. Southwold (Kanada) - Nowa wola (Polska)) // Tawacin. 2007. № 3 (jesien). S. 27-30.*

*9324 Hlebowicz B. Odkrywanie miejsca // Nowa Wola po prostu = Simply Nowa Wola = Новая Воля напросту. Michalowo-Wielichowo, 2008. S. 5-6.*

*9325 Hlebowicz B. Discovering the place // Nowa*




*Wola po prostu = Simply Nowa Wola = Новая Воля па-просту. Michalowo-Wielichowo, 2008. S. 8-9.*

*9326 Глябовіч Б. Адкрыванне месца // Nowa Wola po prostu = Simply Nowa Wola = Новая Воля па-просту. Michalowo-Wielichowo, 2008. S. 11-12.*

*9572 Jasinska M. Nowowolski autoportret // Kurier Poranny. 2009. 27 maja. S. 8.*

*9573 Zmijewska M., Hlebowicz B. Male niezauwazalnie swiaty // Gazeta Wyborcza (Bialystok). 2009, 4 sierp. S. 6. (Інтэрв'ю.)*

*9574 Zmijewska M. Fotograf nie tylko w kurniku // Gazeta Wyborcza (Bialystok) 2009, 4 sierp. (Рэцэнзія.)*

*9575 Krutul U. Swiat na uboczu: autoportret // Gazeta Wspolczesna. 2009. 14 sierp.*

**РАЎЧАНКА Вольга** - нарадзілася ў 1954 г. у Ленінскім раёне Кіргізскай ССР - сям'я вайскоўца і мае карані ў Расіі, Польшчы, Украіне, Беларусі - ужо ў гэтым аснова для інтэрнацыяналізму.

Скончыла менскі "іняз" і ў перыяд прафесійнай дзейнасці ні на рабоце, ні дома не рэалізоўвала свае таленты ў папулярызацыі Лацінскай Амерыкі - толькі ў сярэдзіне 2000-х пачала актыўна займацца лацінаамерыканскай тэматыкай, і не толькі ёй - яна таксама, між іншым, "пасол" італьянскай літаратуры ў рускамоўным свеце.

Па "румянцаўскай" лініі (гістарычныя расійскія і венесуэльскія саноўнікі "перакрыжаваліся" - хоць фізічна, відаць, і не ў самім Гомелі, але Франсіска Міранда, нашчадак гуанчаў, напэўна чуў пра горад на Сожы) з Лілеяй Вялічка і іншымі стварыла кнігі з загадкавымі лацінскімі загалоўкамі: "Aurora Borealis", "Oroboro" і шэраг матэрыялаў у інтэрнэт (асабліва на сайт са "стужкай навін" пра Лацінскую Амерыку tiwy.com).



***Volga Rauchanka. Photo from Venezuela***



***Olga Ravchenko. Foto de Caracas, Venezuela***

Вольга перакладала і венесуэльцаў, якія прыязджалі ў Гомель, у т.л. па справах выкарыстання гомельскіх калекцый і саміх людзей у рабоце пасольства.

Наша перапіска з Вольгай пачалася 25.06.2014 г., актыўная фаза абмену э-паведамленнямі працягвалася да 8.07.2022 г. Ад яе мы даведаліся, што яна два разы была ў Венесуэле.

Снежаньскія ўражанні 2007 г. яна апрацавала ўжо ў матэрыяле студзеня 2008 г.: Venezuela: "Expo-Belarus-2007": With Love. Reflection. Olga Ravchenko, Belarus (January 2008) = Венесуэла: "Экспо-Беларусь-2007": Con amor. Reflexion. Ольга Равченко, Беларусь (Январь 2008) (Por amor. Reflexion. Enero 2008): https://www.tiwy.com/pais/venezuela/materiales/expo-belarus/eng.phtml; https://www.tiwy.com/pais/venezuela/materiales/expo-belarus/rus.phtml; https://www.tiwy.com/pais/venezuela/materiales/expo-belarus/esp.phtml.

На гэтых старонках - вялікі набор фота: твары людзей паказваюць вялікую расавую разнастайнасць Венесуэлы і індзейскі кампанент у ім.

*"3-7 снежня 2007 года ў сталіцы Венесуэлы адбылася Выстава "Экспа-Беларусь-2007". Абодва*





**Ольга Равченко. Фото из Венесуэлы**

*бакі старанна да яе рыхтаваліся, і яна атрымалася.*

*Але сёння мне хочацца гаварыць выключна пра эмацыянальны аспект выставы, якая стала, безумоўна, часткай беларуска-венесуэльскага піяру.*

*Вядома, што, як правіла, чалавеку дадзена разглядзець чужы твар візаві, у той час як свой уласны, імгненны [сиюминутное], можна бачыць толькі адлюстраваным.*

*Наадварот, мы ясна адчуваем сябе, аднак унутраны стан суразмоўцы адлюстроўваюць пераважна яго словы і ўчынкі.*

*Зробленыя мною фатаграфіі - гэта перш за ўсё мае эмоцыі, звязаныя з Венесуэлай і з выставай, яе атмасфера. Незалежна ад таго, да якога класа належаць наведвальнікі выставы, часцей за ўсё яны дзівяцца, дораць мне свае ўсмешкі, дазваляюць зазірнуць у вочы, на імгненне засяродзіцца на іх тварах, на станоўчых эмоцыях, якія сталі часткай аўры, якая панавала тры снежаньскія дні ў каракаскім ваенным клубе "Сіркула Мілітар" і якая адлюстроўвае ні што іншае, як стан у гэты момант маёй душы.*

*Фатаграфіі з выставы - мой уклад у каўчэг беларуска-венесуэльскіх адносін, бо ад спрадвечна [от предвечно] вядома: "У каўчэг што ўкладзеш, тое і панясе!"".*

*"President Rafael Caldera, Palacio de Miraflores, Carmelitas, Caracas 1010, Venezuela*

*July 20, 1998*

*Your Excellency:*

*We are writing to express our concern about the situation of the Indians in the state of Bolivar.*

*We support the Indigenous Federation of Bolivar state in its protest against the building of the power lines in the area.*

*We hope you will consult the Indigenous peoples when your government reconsiders degree 1850 which excludes their consent.*

*The land title issue is still important for your tribes and you have a good constitution and a set of proper laws to settle Native problems in the East.*

*Sincerely yours,*

*Alexander Snitko, Council Member, Belarusian - American Indian Society*

*[…] Gomel […] Belarus.*

*CC: Sr Rafael Martinez Monro, Ministro del Ambiente, MARNR, Centro Simon Bolivar, Torre Sur, piso 19, El Silencio, Caracas, Venezuela; Sr Efrain Carrera Saud, Presidente de la CVG, Avenida la Estancia, Edificio General P.B.1, Chuao, Caracas, Venezuela".*

Многія лісты ў карпарацыі і дзяржаўныя органы замежных краін ад БІТ падпісваліся рознымі яго членамі, якія самі іх не пісалі (акрамя, магчыма, толькі выпадку з нашым жлобінскім членам і "дзяржаўнымі органамі" СССР), і гэта - не "сатырычная", а рэальная праўда. Калі героі нашых артыкулаў - і асабліва індзеяністы - хочуць даказаць сваю эфектыўнасць - яны павінны дадаць да матэрыялаў, якія мы публікуем, і свае "доказы".

У нас і нашых калег сабраліся ў тым ліку некаторыя



**Вольга Раўчанка. Фота з Венесуэлы**




запасы неадпраўленых стандартных паштовак Amnesty International, якія прысвечаныя не нейкім "спрэчным" выпадкам, а сапраўды адназначным адыёзным парушэнням норм і правілаў на прыкладзе абыходжання з самымі ранімымі, такімі як прадстаўнікі малых карэнных і племянных народаў. "Ужасающая" інертнасць была нават у актыўных людзей.

Дзеля справядлівасці: Вольга Раўчанка - таксама выдатны працаўнік, яна адна "з самых лепшых", самых актыўных, і няхай яна не пакрыўдзіцца, калі мы пажадаем ёй больш "апоры" на ўласныя мемуарныя матэрыялы, прысвечаныя паездкам, сустрэчам і неацэннаму супрацоўніцтву, а не на пераклады чужых раманаў.

**Літ.:**

*8657 Aurora Borealis: сборник стихов и прозы / [сост.: О. Равченко]. Мн., 2008. [1 изд.]*

*9564 Aurora Borealis: сборник стихов и прозы / [сост.: О. Равченко]. Мн., 2008. [2 изд.]*

*9292 Равченко О. Не увяжешь мир в однозначное кипу! // Венский литератор. 2010. № 16. С. 10-14.*

*9300 Oroboro: стихи и проза / сост. О. Равченко. Мн., 2013.*

**ЦІТАВЕЦ Валянціна** - першапачаткова мы выпісалі імёны і адрасы савецкіх індзеяністаў у Лася, Што Кліча ў Маскве (гл. яго "адкрыты ліст", у якім ён крытыкуе задуму фільма "Следапыт", у нашай мазаіцы па кіно "Кінаіндзейцы"), маючы за прыярытэт беларускія адрасы і прозвішчы або верагодна беларускія прозвішчы ў індзеяністаў з розных рэспублік. Затым на злёце індзеяністаў 1987 г. мы апрацавалі вялікі адраснік Багдана Яхвака. Асобныя адрасы атрымлівалі ад карэспандэнтаў.

Мы напісалі Валянціне ў Ленінград тры лісты - да, адразу пасля паўваў і яшчэ праз тры месяцы - 19.05.1987, 21.07.1987, 31.10.1987. Першы з іх:

*"Атрымалі Ваш адрас ад Ніны Аўсюковай і неадкладна вырашылі напісаць. Прынамсі я, хаця Аляксандр Снітко - прадстаўнік АГ БІТ у Гомельскай вобласці - вельмі заці-кавіўся Вашай спецыялізацыяй на індзейцах Лацінскай Амерыкі і, верагодна, неўзабаве дашле Вам свой ліст. Мяне ж больш за ўсё заахвочвае пісаць Ваша прозвішча, дакладней тое, што можа хавацца пад Вашым чыста беларускім прозвішчам. Справа ў тым, што я займаюся вывучэннем укладу ў сусветную індзея-ністыку асоб беларускага паходжання. Шырэй мая тэма фармулюецца як "беларуска-індзейскія сувязі".*

*Я ўжо знаёмы завочна з Вялікім Сэрцам і зусім нядаўна адправіў ліст Чайцы. Вельмі хацеў бы і спадзяюцца, што вы пральяце святло на Вашы магчы-мыя сувязі з Беларуссю (калі знаходзіце маё пытанне тактоўным) і станеце падтрымліваць перапіску з адным з нас.*

*Чакаем Вашага адказу.*

*Вітанні ад беларускіх братоў-індзеяністаў".*

Мы ўбачыліся з Валяй Цітавец у Ленінградзе (асабліва яскрава памятаецца яе пранікнёны аповед пра індзеяністыку для камсамольскага работніка каля Сафійскага сабора) і на паўваў каля Пецяярві ў 1987 г., у час размоў яна пацвердзіла нашу здагадку, што прозвішча яе беларускае - яна сапраўды мае карані ў Беларусі. У 1888 г. з ёй зноў сустракаўся Мачэтэ (што адлюстравана на здымку з паўваў).

**Літ.:**

*8251 Олейник Т. Индеанисты // Петербургское язычество. СПб., 1999. С. 27-30.* ("Вось ужо 20 гадоў кожны год у Ленінградскую вобласць з'язджаюцца са ўсёй тэрыторыі СССР людзі, якіх называюць індзейцамі і якія самі называюць сябе індзеяністамі. Гэтыя штогадовыя асамблеі носяць назву *powwow*, што ў паўночнаамеры-



***Aleksandr Snitko (left), Valentina Titovets (standing with her back) and others during 1988 powwow (Leningrad oblast)***

АГ БIТ - ОГ БИО
21.7.1987 № I
Гомель

Валя I

Начинаю это письмо почти сразу после возвращения домой. Некоторое промедление вызвано необходимостью разобраться с накопившимися здесь делами.

Вне всяких сомнений, наша поездка имела огромное значение для будущего индеанистского движения в Белоруссии. Прости мне это пышное выражение, как и все прочие подобного рода, которые тебя придется читать. У меня такой стиль, ничего не поделаешь.

Очень жаль, что мы не смогли как следует познакомиться - обменяться идеями и наметить программу сотрудничества. Впрочем, первых впечатлений достаточно, чтобы утверждать (говоря лишь о себе, хотя Саша Снитко, похоже, чувствует тоже самое): я предан тебе, как предан индеанистике - и как ты предана ей; всегда готов к содействию любого рода.

Особенно меня радует то, что можно назвать доброй волей и широким взглядом. Ты согласилась попробовать приобщиться к белорусистской индеанистике, включая ознакомление с белорусской культурой, историей, наукой, внешними связями и изучение белорусского языка. Поверь, я просто в восторге от этого шага навстречу I
И как бы не было трудно осуществить это заочно, постараюсь заинтересовать тебя. Впрочем, не исключено, что мне придется довольно часто бывать в Ленинграде и через некоторое время в вашем городе будет создана группа содействия белорусской индеанистике (Представительство ОГ БИО). Очень хотел бы надеятся на твое в ней участие. В первое время тебе может быть полезно общение с одним из крупнейших специалистов по белорусистике в Ленинграде - Валентином Петровичем Грицкевичем. Вероятно, он самый осведомленный в Союзе человек по вопросом участия белорусов в открытиях и исследованиях на американском континенте. Тебе неплохо было бы ознакомиться с его книгой "Путешествия наших земляков" (Минск, 1968, на русском языке). Она имеется в ГПБ, но вполне возможно, что ее может дать тебе почитать сам Валентин Петрович. Мое знакомство с ним короткое, но тем не менее ты можешь сослаться на меня и договориться о встрече. Он с большим интересом выслушал мою информацию об индеанистике, ты можешь продолжить введение его в курс дела. (Адрес и телефоны прилагаю).

Хотел бы предложить тебе первое практическое дело, которое, вероятно, положит начало постоянному книгообмену между нами. В магазине "Мир" на Литейном проспекте осталось, если не ошибаюсь, 4 экз. книги А.Голынского "Я был при рождении Калифорнии" (Варшава, 1981, на польском языке). Необходимо скупить все, что есть, разумеется, с немедленной нашей компенсацией затраченных денег. (См. приложение).

С искренней благодарностью

***Letter to Indianist Valia Titovets (ліст да Валянціны Цітавец (Титовец)) 1987-07-21***

канскіх індзейцаў азначае агульнаплемянныя зборы-святы. Разам з індзеяністамі з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Прыбалтыкі, Сібіры, Украіны, Беларусі на паў-ваў часам прыязджаюць і амерыканскія індзейцы".)

**Літ.:**

*9034 Молодежные движения и субкультуры Санкт-Петербурга: социология и антропологический анализ / ред. В. Костюшев. СПб., 1999.*

*9035 Шевцов Е. В., Кириленко Г. Г. Культура и молодежь: феномен молодежной субкультуры и новые религиозные движения, 2004. (Институт международных социально-гуманитарных связей.)*

***ДАР'Я** - хаця Даша і Дзіна ў Беларусі і Бразіліі - "адзінае цэлае", але, няхай не пакрыўдзіцца яе сястра, артыкулы ў алфавітнай частцы нашай серыі павінны мець у вакабуле адну асобу. Блізняты нарадзіліся ў Менску, у Нараўлянскім раёне ("район" ад слова "рай", нягледзячы на "чарнобыльскі цень") праводзілі лета. Бабулю і дзядулю сёстры апісваюць як прыземленых на гаспадарцы - *"конь, свінні, куры, гарод, пчолы"*, але прабабка - птушка больш высокага палёту: *"Збірала і варыла нейкія зёлкі, шаптала людзей"*, *"любіла самотнасць і самастойнасць"*, вабіла і *"трохі палохала"* дзяўчынак. У любым выпадку, вяртацца ў горад пасля лета яны вельмі не хацелі.

З 18 гадоў, каля 2019-2020, вучыліся ў Варшаве на праграмістаў, не давучыліся - магчыма, ім сапраўды больш падабаецца сельскае жыццё і больш простыя заняткі. Гэта пачалі рэалізоўваць у Бразіліі. У 2023 г. іх жаданне было застацца ў ёй.

…Спачатку яны пераехалі ў Гданьск: *"Мора, вазьмі нас да вялікай вады! - крычалі мы са скалы. Мы сядзелі і плакалі ў снег, казалі: Сусвет, дапамажы, што нам рабіць далей?"* - прыгадала Даша.

*"Пазней беларускі апынуліся ў Лісабоне, адкуль паляцелі ў Бразілію, дзе жыў іх сябра. Ён вывучаў мясцовыя плямёны, арганізоўваў туры для рускамоўных турыстаў. Сёстры "адчулі моцны душэўны водгук" і вырашылі далучыцца да яго ў якасці валанцёрак".*

Даша: *"Мы прыляцелі - і пачалася магія. Калі мы толькі ступілі на бразільскую зямлю, то адчулі, што перамясціліся праз партал у іншы свет. І няма шляху назад. Ты нібыта стаіш на краі прорвы і дазваляеш сабе зваліцца, хоць і не ведаеш - дзе прызямлішся. Але ты ведаеш, што робіш правільна, бо пайшоў за сваім сэрцам".*

З аэрапорта 52 гадзіны ехалі ў аўтобусе. *"Мы думалі, што гэта будзе душ і гатэль. Але нас адвезлі да акіяну, які мы бачылі ўпершыню. Потым - у лес, дзе нам далі дыванкі і мы ўпершыню ўдзельнічалі ў старадаўняй шаманскай цырымоніі аяваска, звязанай з ужываннем адвару з "чароўных траў". Мы былі ў стане поўнай унутранай цішыні. Проста прымаеш усё, што адбываецца, і плывеш за вадой".*

*"У кампаніі сяброў блізняты працавалі шэсць месяцаў. Правялі шмат цырымоній для турыстаў, якіх вазілі ў джунглі. Часам, каб дабрацца да пэўнага месца, турыстаў везлі на чоўне некалькі дзён. Наведвалі розныя плямёны, удзельнічалі ў цырымоніі з мясцовымі шаманамі.*

*Пасля завяршэння турыстычнага сезону і даследніцкага праекта сяброў у беларусак скончыўся шасці-*

R.P. João Pedro Cornado, S.J.
Provincial
Provincia de Bahia
Igreja Santo António da Barra
40130 Salvador, BA
Brasil

November 10, 1991
Gomel

Reverend Father:

We are keenly interested in Fr. Anselmo Eckart, S.J., and his work in Brazil (Pará and Maranhao).

Fr. Eckart arrived in the Byelorussian Province after the expulsion and confinement in Portugal. He died in Byelorussia in 1809.

H's one of the exciting examples of Byelorussian-Brazilian contacts.

We will appreciate your help in studying this Biography.

Thank you very much for any information on the Jesuit history in Brazil and of course your today's activities.

With best regards,

(Mr.) Ales Simakou
Byelorussian-American Indian Society
P.O.Box 114
Gomel 246049
Byelorussia, USSR

***Letter to Fr. Joao Pedro Cornado, SJ, Provincial, Provincia de Bahia 1991-11-10***





Dr. Ignacy Sachs
Director
Centre de recherches
sur le Brésil contemporain
54 Boulevard Raspail
75006 Paris
France

January 10, 1996

Dear Dr. Sachs:

We read your introductory notes on "the end of the age of Columbus" in ISSJ №134 November 1992.

Our Brazilian contacts are limited, although we have received several important responses since 1991.

Unfortunately, we are located in a city without (Latin) American reference resources and in a country without its own research structures in this field.

We would be very grateful for any kind of directory or list of addresses of major or prospective Indian and Indianist organizations in Brazil and also an update on your Center.

In this way you could help us to start properly Belarusian - Brazilian Indian relations.

Sincerely yours,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Ignacy Sachs (1927-2023), Centre de Recherches sur le Bresil Contemporain 1996-01-10 (Polish-born French economist)***




***Envelope from Centre de Recherches sur le Bresil Contemporain (Paris) received 1996-02-21***

*месячны тэрмін легальнага знаходжання ў краіне. Іншыя ўдзельнікі праекту вярнуліся ў Еўропу.*

*"А нам не было куды вяртацца. Мы паехалі ў Перу. Але яшчэ да паездкі туды пачалі займацца татуяваннем. Прычым набівалі не проста "карцінкі з інтэрнэту" - мы рабілі тату з беларускай сімволікай", - кажа Даша. Пасля Перу беларускі вярнуліся ў Бразілію, дзе вырашылі застацца на стала. Для гэтага прыйшлося прасіць прытулак і ісці ў паліцыю".*

Яны атрымалі дазвол на двухгадовае жыццё ў Бразіліі. Заняліся яны бізнесам па татуіроўках. Як лічаць Даша і Дзіна, па распаўсюджанні татуіровак Бразілія адна з першых у свеце.

*"На адной шаманскай цырымоніі сёстры ўбачылі жанчыну, цела якой было пакрыта малюнкамі. А назаўтра сустрэлі ў гатэлі хлопца-бразільца, які займаўся тату і меў пры сабе неабходнае абсталяванне. Беларускі пазычылі ў яго некалькі іголак".*

Даша сказала, што ў рыбацкай вёсцы на беразе акіяна, дзе яны тады жылі, бялявых дзяўчат, уладальніц блакітных вачэй лічылі за іншапланецян, якія *"прыносяць шчасце"*.

Даша: *"Яны думалі, што мы нерэальныя, прасілі дакрануцца да нас. Мы пачалі іх татуяваць, гэта як пазначаць кодамі племя".*

І ўвогуле, ёсць назіранні, што ў свеце тату глабальна ўсё больш выкарыстоўваюць беларускія арнаменты. Сёстры паглыбіліся ў сімволіку і арнаментыку, у фальклор, у слуцкія і іншыя беларускія традыцыі.

*"Шмат нам не давялося вучыцца. Мы проста ўзгадалі тое, што было "ўжыўлена" ў нашым ДНК. Калі ты ідзеш за сэрцам, то Сусвет дапамагае табе".*

Даша: *"Мы "пазначаем" людзей з нашага племя. Мы з розных народаў і рас, але ў нашым ДНК ёсць веды і коды кожнай чалавечай расы. Бразільцы больш агністыя, беларусы - больш зямля і вада. І гэтае спалучэнне, гэты энергетычны баланс дазваляе "агністым" бразільцам зазямліцца. Раней татуяванне было такім рытуалам, які варта было заслужыць, і кожны сімвал меў значэнне. Напрыклад, паляўнічы атрымліваў татуіроўку за першую здабычу. І таму калі ты набіваеш татуіроўку, ты нібыта зараджаеш акумулятар, энергія з якога вернецца табе, калі ты яе паклічаш".*

Сваім кліентам яны расказваць пра Радзіму - "самае добрае і лепшае": *"Пра наш беларускі лес, па якім я вельмі сумую. Сумую на нашым моху, на якім можна ляжаць. Тут прыгожыя лясы, але яны не такія, як у Беларусі. Тут шмат калючак, кустоў, тут ліяны і атрутныя змеі. Тут дзікаватая і небяспечная прырода"*, - так апавядае Даша. Ад каго ж большая небяспека - ад людзей або ад прыроды - пытанне, як вядома, рытарычнае.

**Літ.:**

*7610 Костюкович А. Общество татуированных звезд // Имя. 1999. 21 янв. (Індзейцы, татуіроўка.)*

*6074 Фестиваль татуировки // Згода. 2001. 9 июня. С. 8.*

*3233 Приходченко А. Татуировка // Рэспубліка. 1995. 13 снеж.*

*3053 Макараў А. Рамяство новага часу: нацельны жывапіс // Звязда. 1996. 1 жн.*

*4397 Последний писк женской моды - татуировки // Знамя юности. 1995. 5 апр.*

*3827 Хмара И. Рыбка на пупке // Советская Белоруссия / Деловой вторник. 1998. 25 авг.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou (e-mail: baicri@tut.by),***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами.***





# Зюзя запрашае ў Дом Валянціна Таўлая

*"А пачнём мы казку так...",* - пад такой назвай гучыць ўжо даволі запатрабаваная і наведваеная часовая экспазіцыя ў Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея.

Дык менавіта тут не пачата так казка, а працягнута! І нават з зімовым настроем. Сапраўды, снегу яшчэ не ў дастатку. І па-гэтаму супрацоўнікі дома-музея вырашылі паклікаць Дзеда Мароза, а больш правільна, нашага беларускага Зюзю. Зюзя ўзгадваецца ў казках, легендах, народных вераваннях. Каталікі ўжо пакармілі Зюзю падчас Калядаў, калі елі куццю і прыгаворвалі: "Мароз, мароз, ідзі куццю есці". Такім чынам яны паддобрывалі яго. Вера ў магічную сілу Зюзі захоўвалася ў нашых продкаў.

26 снежня ў Дом Валянціна Таўлая завіталі дзеці першых класаў з СШ №17, а следам з Гімназіі № 1. Яны наведалі гэтую часовую экспазіцыю, дзе шмат прадстаўлена беларускіх народных казак. Навагодняя ялінка ўпрыгожыла выставачны пакой. Дзеці даведаліся як святкавалі нашы продкі Новы год, якія традыцыі былі закладзены ў навогоднія дзеі. І дзівам было для вучняў калі завітаў да іх беларускі лясны мароз Зюзя.





Ён падмарозіў усіх, загартаваў, засцярог ад хвароб. І, канешне, разам з ім дзеці патанчылі ў карагодзе пад вядомую навагоднюю песню Раісы Кудашавай, але ў перакладзе на беларускую мову Янкі Купалы. Паспрабавалі гэты песенны твор разам скласці. Забадзёрыць Зюзю дапамаглі вершы, зачытаныя вучнямі. Найбольш актыўныя ўдзельнікі атрымалі пачастункі ад Зюзі.



А вы былі ў гасцях у Зюзі? Завітайце ў Дом Валянціна Таўлая, што па вуліцы Замкавая,7.

*Ад вас настрой,*
*Ад нас жа казка!*
*Завітайце, калі ласка!*

***Алесь Хітрун.***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 2.01.2024 г.

Фармат А-4.
Аб’ём 3,5 друкаванага аркуша.